ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

3 кастрычніка 1997 г. № 40/3916 Кошт 3 000 руб.

## УНІЗ ПА ЛЕСВІЦЫ, ШТО ВЯДЗЕ ЎВЕРХ

***Барыс ЖАГРЫН: "Узрост культуры роўны ўзросту чалавецтва, бо культура і была павітухай. Паміж Гегелем і Сахаравым, з аднаго боку, дзікунамі і бамжамі — з другога, няма рашуча ніякай фармальнай розніцы. Але розніца фактычная, якая заключаецца ў якасці набытага сэнсу, невымерная і натуральная: першыя ствараюць, а другія толькі спажываюць або, горш за тое, — разбураюць".***

**5, 12**

## У ЖАНРЫ АНТЫУТОПІІ

***Міхась ТЫЧЫНА: "Самым блізкім па сваім змрочным каларыце новаму Быкаву льга назваць апавяданне М. Гарэцкага. З тым адрозненнем, што папярэднік шчыра і абгрунтавана верыў у таямнічую сілу мастацтва: жорсткі пан Дастаеўскі (!) не здужаў "страшнай музыкавай песні" і сканаў ад жаху — такая праўда пачуцця гучала ў музыцы. Быкаў жа і раней, калі грамадства наша было літаратурацэнтрычным, пытаў сябе і іншых: "Дык што мы можам?"***

**6—7**

## "ГЭТА МОЙ ЛЁС..."

***Вершы Дануты БІЧЭЛЬ***

**8—9**

## СЛЯПЫ І ВІДУШЧЫ

***Апавяданне Васіля ТКАЧОВА***

**9**

## ПОМНІКІ ЧАСУ, ЯКОГА ПРОСТА НЯМА

***Галіна КРАЎЧАНКА: "Я — чалавек тэлевізійны. Спавядаю думку Адамовіча, што свет — тэатр, але людзі — акцёры часткова на сцэне, большыня ў партэры... Мне шкада, што на тэле паменела тэатра ды паэзіі. Але іх можа спавядаць зусім не кожны... І не ў любы час".***

**10—11**






# Святая памяць

Святкуючы 100-годдзе хрысціянскай святыні — касцёла Божай Маці, браслаўцы ўшаноўвалі памяць сваіх мудрых і таленавітых продкаў, рукамі якіх напрыканцы XIX стагоддзя быў узведзены гэты храм. Хоць улады горада і непаважна аднесліся да гэтай нешараговай падзеі, і хрысціяне рымакаталіцкага веравызнання, і ўсе, каму дарагія гісторыя краю і святая памяць, прыйшлі ў дзень нараджэння Божай маці да будынка касцёла.

Шмат шчаслівых твараў бачыў горад у гэты светлы дзень. Бо людзі ішлі да адной з найкаштоўнейшых святынь — абраза Божай Маці, апякункі Браслаўскіх азёр і земляў.

З гісторыі вядома, што храм-юбіляр стаіць на падмурку старажытнага касцёла, які быў знішчаны пажарам у час бою паўстанцаў генерала Касцюшкі з расійскімі атрадамі. Касцёл Божай Маці — адзін з нешматлікіх храмаў азёрнага краю, якому пашчасціла выжыць і ў змрочныя часы наступу агрэсіўнага атэізму.

**Анатоль КЛЯШЧУК**
*Фота аўтара*





## ШКОЛА ДЗЁН

***Узаемаадносіны Беларусі з Саветам Еўропы ўскладняюцца з кожным тыднем. Пасля таго, як СЕ заклікаў усе краіны да палітычнай і эканамічнай блакады Беларусі, ён прыняў новае беспрэцэдэнтнае рашэнне: на чарговым саміце СЕ ў Страсбургу Беларусь не будзе прысутнічаць нават у якасці "спецыяльна запрошанага"... Міністэрства замежных спраў Беларусі ў сваёй заяве назвала дзеянні СЕ ні больш ні менш — "дыктатам". І паколькі МЗС лічыць умовы, якія "дыктуе" СЕ, непрымальнымі, цяжка чакаць у бліжэйшым часе нейкіх змен і зрухаў у справе прызнання Беларусі ў Еўропе, а таксама ў перамовах паміж апазіцыяй і прадстаўнікамі прэзідэнта (калі яны наогул будуць працягнуты). Маленькая, але ганарлівая Беларусь не хоча "пастулаца прынцыпамі". І Савет Еўропы не адмовіцца ад жадання прымусіць "непакорлівую" дзяржаву жыць па законах еўрапейскага свету. Каса найшла на камень, але ляжаць каменем пасярод Еўропы ніяк не выпадае. Да таго ж, усім вядома, пад што вада не цячэ...***

### *СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

На мінулым тыдні закончыўся тэрмін дзеяння акрэдытацыі замежных журналістаў і прадстаўніцтваў замежных СМІ на тэрыторыі Беларусі. Паводле рашэння Савета Міністраў Беларусі ўсе замежныя журналісты павінны былі да 23 верасня прайсці пераакрэдытацыю. Па апошніх звестках, зрабілі гэта толькі 27 журналістаў са 110 акрэдытаваных дагэтуль (84 пастаянна і 26 часова). Істотна падкарацiў колькасць акрэдытаваных журналістаў "пункцік" урадавай пастановы, паводле якога супрацоўнікі зарэгістраваных у Беларусі СМІ не могуць прадстаўляць у сваёй краіне СМІ замежныя, хоць падобнае "сумяшчэнне пасад" паўсюль прынята за натуральнае, асабліва ў "цяжкадаступных" краінах. Такім чынам, простым рашэннем урада плынь інфармацыі, што будзе выходзіць з Беларусі, скарочана ў чатыры разы. Але — акрэдытацыя працягваецца...

### *"ШКАДАВАННЕ" ТЫДНЯ*

Міністэрства замежных спраў Беларусі распаўсюдзіла 29 верасня заяву, у якой выказваецца шкадаванне ў сувязі з тым, што Беларускі фонд Сораса спыніў сваю дзейнасць на тэрыторыі нашай краіны. МЗС сцвярджае, што беларускія ўлады не закрывалі Беларускі фонд Сораса, што яны "заўсёды дзейнічалі ў адносінах да БФС без якіх-небудзь прадузятасцяў і ў строгай адпаведнасці з літарай закона", што БФС "не быў і не можа з'яўляцца аб'ектам палітычнага праследавання", і ўвогуле "БФС наўмысна скажае ісціну, надаючы палітычнае значэнне пытанню, якое мае чыста прававы характар..." Пасля гэтакіх "шкадаванняў" надзеі на тое, што БФС адновіць сваю дзейнасць у Беларусі, стала значна больш...

### *РЭКАРДСМЕН ТЫДНЯ*

Дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, журналіста газеты "Товарищ" Валерыя Шчукіна суд Ленінскага раёна г. Мінска 24 верасня аштрафаваў яшчэ на 30 мільёнаў рублёў за ўдзел у акцыі журналісцкай салідарнасці з Паўлам Шараметам. Такім чынам, агульная сума штрафаў, на якую дзяржава пакарала сёлета апазіцыянера, склала 76,5 мільёна рублёў, а гэта азначае, што "рэкорд" старшыні "Народнай Грамады" М. Статкевіча — пабіты. Хуткія на руку журналісты падлічылі, што выплачваць гэты штраф ваеннаму пенсіянеру Шчукіну давядзецца да глыбокай старасці.

### *ДАМОЎЛЕНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Пасля Я. Прымакова вырашаць "справу Шарамета" ў Мінск прыбыў віцэ-прэм'ер расійскага ўрада Валерый Сяроў. Паводле папярэдніх паведамленняў СМІ, на сустрэчы В. Сярова з А. Лукашэнкам было ўзгоднена, што вырашацца гэтая праблема будзе ў рэчышчы ранейшых дамоўленасцяў прэзідэнта Беларусі з прэзідэнтам Расіі. Што гэта за дамоўленасці, мы ведаем нібыта з першых рук — ад Б. Ельцына, які неаднаразова выступаў з рэзкімі заявамі па расійскім тэлебачанні. Але разам з тым на сёння не адбылося пакуль нічога істотнага, акрамя асцярожнага прадбачання Прэзідэнта Беларусі: паколькі следства па справе П. Шарамета завершана і матэрыялы перададзены ў пракуратуру, журналіст да суда можа быць вызвалены з-пад варты.

### *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

"Адзінаковы статус" моў лічу хітрамудрай і прымусова навязанай беларусам задумай. Рэалізацыя яе на практыцы вядзе да дыскрымінацыі спрадвечна беларускага, усяго, што нагадвае карэннаму насельніцтву аб яго гісторыі, побыце, культуры. Пад выглядам "аўтаномнага" існавання другой дзяржаўнай мовы грамадзянам Беларусі ўкараняецца ідэалогія зусім іншай нацыі. Фактычна ідзе культурная інтэрвенцыя ў адносінах да беларускага народа. Так можна і не заўважыць, як знікне асноўная нацыя, а з ёй і сама беларуская дзяржава..."

*(З адказаў былога члена Канстытуцыйнага суда Беларусі Міхаіла ПАСТУХОВА на пытанні чытачоў. "Народная воля" за 1 кастрычніка г.г.)*

### *БАНКРУТ ТЫДНЯ*

Газеты паведамілі пра першага банкрута на вёсцы. Ім стаў саўгас "Падароск" Ваўкавыскага раёна. Гаспадаркі з такім імем больш тут няма. Саўгас — адзін з самых ляжачых у раёне — "купіла" мясцовая райсельгасхімія. Што з гэтага выйдзе, што гэта дасць былым саўгаснікам — невядома, але ўсё ж з'яўленне новага гаспадара — хоць нейкае выйсце. А колькі саўгасаў і калгасаў чакаюць на падобнае ці нейкае іншае выйсце?

### *МІЛЬЯРДЭР ТЫДНЯ*

Слава мільярдэра прыйшла да Упраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці. Мільярд рублёў — такі сумарны доўг за тэлефонныя гаворкі ўпраўлення брэсцкім сувязістам. Апошніх гэта моцна здзівіла: установа, супрацоўнікаў якой называюць вялікімі маўчунамі, аказалася адной з самых гаварлівых. Услед за карэспандэнтам "Народнай волі", які паведаміў пра гэты сапраўды нечаканы факт, спытаем: а, можа, супрацоўнікі ўпраўлення настолькі і намаўчалі?

### *БЕЛАРУС ТЫДНЯ*

Як вядома, Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы кожны год прысвойвае званне "Чалавек года". Уладальнікамі яго становяцца людзі, якія здабылі вядомасць у розных галінах навукі, культуры, літаратуры... У спісе славутасцей — нямала і беларусаў. Нядаўна ён папоўніўся імем прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны, доктара філалагічных навук, прафесара Адама Мальдзіса. Брава, Адам Іосіфавіч!

# Крыж жыватворны — наша святыня

Ідэя стварыць копію Крыжа Еўфрасінні Полацкай, выкананага ў 1161 годзе майстрам Лазарам Богшам, узнікала пяць гадоў таму назад. Тады мала хто верыў, што такая справа ўвогуле можа быць ажыццёўлена. Зрушыла яе з месца грамадская арганізацыя — Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Працу па стварэнні Крыжа па ўзоры Крыжа Еўфрасінні Полацкай, распачатую брэсцкім мастаком Міколам Кузьмічом, благаславіў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Вядомыя вучоныя, спецыялісты ў розных галінах мастацтва і гісторыі пастаянна давалі кансультацыі і дапамагалі чым маглі мастаку. Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт зрабіў паломніцтва ў святыя мясціны, адкуль былі дастаўлены ў нашу краіну для копіі Крыжа часцінкі Крыві Хрыстовай і мошчаў пакутнікаў, а таксама камень ад Гроба Гасподня і маткі Боскай. Самому ж мастаку ўдалося аднавіць тэхніку, у якой былі выкананы эмалевыя мініяцюры, што упрыгожвалі страчаны Крыж. Фундатарам даследчай працы мастака па стварэнні эскіза, а потым і самога Крыжа стаў сябар ЗБС "Бацькаўшчына", расійскі прадпрымальнік, беларус па паходжанні Анатоль Сілівончык.



26 верасня ў Полацкім Багаяўленскім саборы прайшла ўрачыстая служба, а 27-га адбылася літургія і пакланенне Крыжу ў Крыжаўзвіжальным саборы Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. На ўрачыстасцях з нагоды асвячэння і Узвіжання Крыжа прысутнічаў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг. Ён, азнаёміўшыся з праблемамі манастыра і ўсяго Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, абяцаў падтрымку з боку дзяржавы. І каб праект, які павінен быць ажыццёўлены на Полаччыне ў звязцы з Крыжам, хутчэй здзейсніўся, нядаўна быў створаны Міжнародны дабрачынны фонд Жыватворнага Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай. Прэзідэнтам фонду аднадушна абраны наш зямляк Анатоль Сілівончык.

*На здымку: адзін з момантаў цырымоніі асвячэння Крыжа.*

*Фота БЕЛТА*

АДГАЛОСКІ

# Экранныя перакананні

У мінулую суботу тэлеканал "Расія" (РТР) наладзіў гледачам "агульнай інфармацыйнай прасторы" сустрэчу з Прэзідэнтам Беларусі. Зрабілі гэту справу журналісты праграмы "Совершенно секретно". А ў аснове тэлевізійнай перадачы быў відэазапіс інтэрв'ю, якое прэзідэнт даў журналісту М. Маркелаву. Гэта ўжо само па сабе падаецца дзіўным, бо ў лістападзе мінулага года таго самага Маркелава прымусілі хуценька з'ехаць з Мінска, папярэдне размагніціўшы стужку. Ды і тагачасныя выпускі "Совершенно секретно", у якіх асвятляліся падзеі ў Беларусі, наўрад ці маглі спадабацца беларускаму кіраўніцтву. І раптам... Што ж здарылася?

Узгадаем, што запіс праграмы адбываўся ў жніўні, падчас абвастрэння стасункаў паміж Масквою і Мінскам, якое было выклікана дзеяннямі беларускіх уладаў у дачыненні да журналістаў ГРТ. Штодня расійскія СМІ распавядалі аб "справе Шарамета", выказацца на гэты конт быў вымушаны нават сп. Ельцын — і праз прэс-сакратара Ястржэмбскага, і асабіста. Зразумела, што беларускі бок хацеў зрабіць у гэтай так званай "інфармацыйнай вайне" крок у адказ. Але якім чынам? ГРТ і НТБ па другі бок барыкад, застаецца РТР... Дамагчыся прынцыповай згоды кіраўніцтва "СС" у асобе Арцёма Баравіка на гэту акцыю было, мабыць, няцяжка, бо А. Баравік вядомы прыхільнік Ю. Лужкова, а Юрый Міхайлавіч неаднаразова выступаў у падтрымку Аляксандра Рыгоравіча. А. Баравік на пачатку праграмы нават сказаў некалькі слоў.

Калі хто ўключыў тэлевізар на сярэдзіне праграмы і не чуў уступнага слова А. Баравіка, дык мог бы падумаць, што глядзіць чарговы фільм Ю. Азаронка, тое ж, скажам так, некарэктнае спалучэнне кадраў "Вясны-96" і кінахроніка часоў Другой сусветнай вайны, непрыхаванае жаданне выставіць апанентаў беларускага Прэзідэнта ледзь не дурнямі (гэта, дарэчы, не на карысць прэзідэнту, бо калі ў асяроддзі апазіцыі няма асобаў, дык і перамогі над ёю мала чаго вартыя), ці нават здраднікамі.

Напрыклад, расійскі тэлежурналіст разважае пра тое, што З. Пазняку замест таго, каб эміграваць на Захад, варта было б гады два-тры пасядзець у турме. Гэта, мабыць, магло б аказацца вельмі зручным у часе наступных прэзідэнцкіх выбараў. Альбо вось такая заява... Спрабуючы выглядаць аб'ектыўным, журналіст "СС" у асцярожнай форме нагадвае, што А. Лукашэнка занадта крута паводзіць сябе з апазіцыяй і ў Беларусі не ўсё добра з правамі чалавека, але... "але цяпер гэта не мае значэння, паколькі альтэрнатывы гэтаму рэжыму няма". Тут варта было б удакладніць, для каго не мае значэння, і для каго няма альтэрнатывы? Сам Аляксандр Рыгоравіч заўжды гаворыць аб беларусах як аб народзе працавітым, мудрым і вялікім. Дык што, гэты народ пры патрэбе не здолее вылучыць са свайго асяроддзя яшчэ аднаго таленавітага палітыка? Іншая справа, калі "не мае значэння" для Масквы, і "няма альтэрнатывы" зноў жа для Масквы. Дык так і гаварыць трэба. Што для маскоўскай пазіцыі ўсё "не мае значэння", калі гаворка ідзе пра імперскія інтарэсы Расіі — рэч вядомая і цалкам натуральная, у чым мы яшчэ раз мелі магчымасць пераканацца пры поўнай, аб'ектыўна трэба заўважыць, тэлеперакананасці нашага прэзідэнта.

**Вадзім ДОЎНАР**

ЧЫТАННІ

# Не мялеюць Скарынавы вытокі

Францішак Скарына і час — і не толькі той, у якім жыў і тварыў выдатны першадрукар і асветнік, а і час, як катэгорыя прасторавая, што ўбірае ў сябе лепшыя духоўныя каштоўнасці, створаныя чалавецтвам на працягу стагоддзяў; неўміручасць спадчыны найвыдатнейшага беларускага дзеяча і яго ўплыў на друкарскую і асветніцкую справу ва ўсім свеце: праблемы вывучэння яго жыцця і дзейнасці суадносна сённяшніх рэалій — гэтыя і іншыя пытанні абмяркоўваліся падчас трэціх Скарынаўскіх чытанняў, што праходзілі ў старажытным Полацку.

У Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання сабраліся даследчыкі з Мінска, Гомеля, Вільні, Масквы, Рыгі, Санкт-Пецярбурга, Варшавы, Нью-Йорка. І, канечне ж, самы чынны ўдзел прынялі ў іх супрацоўнікі музея, а таксама навукоўцы Полацкага дзяржаўнага універсітэта.

Праводзенне чытанняў было прымеркавана да знамянальнай падзеі — 480-годдзя выдання Скарынам у Празе першай беларускай кнігі. Гэта, вядома, не магло не надаць ім своеасаблівай урачыстасці, але, не паўплывала на дзелавы характар работы. А даклады, паведамленні, якія прагучалі на чытаннях, вартыя таго, каб з цягам часу стаць набыткам шырокай грамадскасці.

Годна пачувалі сябе на чытаннях прадстаўнікі далёкага замежжа. Тым больш, што прыехалі на іх тыя, хто ў розных мерапрыемствах на Беларусі даўно прымае чынны ўдзел. У прыватнасці, прафесар Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі (лімаўскі чытач, бадай, больш яго ведае як паэта Алеся Барскага) запыніў увагу на адраджэнскім шляху Скарыны, нагадаўшы прысутным, што Скарына годна тарыў у сваёй друкарскай і асветніцкай дзейнасці уласную сцежыну і ганарыўся сваім паходжаннем са слаўнага горада Полацка. Дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель падрабязна расказаў, які уклад унеслі ў скарыназнаўства прадстаўнікі беларускага замежжа. Зора ж Кіпель паведаміла, што кнігі пра Скарыну, выдадзеныя на Беларусі, ёсць у 65 бібліятэках 33-х штатаў ЗША.

Закраналіся на чытаннях пытанні канфесійнай прыналежнасці Скарыны. У прыватнасці, на гэтых аспектах засяродзілі ўвагу галоўны навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага Эрмітажа (Санкт-Пецярбург) Барыс Сапуноў, навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры Расійскай акадэміі навук Аляксей Каўка, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны Адам Мальдзіс, прафесар Віленскага універсітэта Юозас Гянзяліс.

Не былі абыдзены ўвагай і такія пытанні, як сацыяльна-палітычныя погляды першадрукара, яго моўнае майстэрства, праблемы перакладу Скарынавых твораў, а таксама кніг Біблії на сучасную мову, гаварылася і пра высокі мастацкі ўзровень Скарынавых выданняў, якіх на сённяшні дзень у свеце налічваецца 388 экземпляраў.

**Н. К.**

# Уніз па лесвіцы, што вядзе ўверх

## КУЛЬТУРА: РОЛЯ, МЕСЦА І ЗНАЧЭННЕ Ў ЖЫЦЦІ

### І. НА РОСТАНЯХ

Пачну з пярэчання марксісцкаму светапогляду, які манапольна панаваў у Савецкім Саюзе тры чвэрці стагоддзя. Чалавека стварыла не столькі праца, колькі набыты сэнс існавання. Мне бліжэй гэта духоўнае вызначэнне. Ды і культуру чалавецтва немагчыма вызначыць інакш, як — культура ёсць набыццё сэнсу.

У незапамятныя часы гэта пачалося з набыцця сэнсу сям'і нашымі продкамі, спасціжэння ролі, месца і значэння мужчыны, жанчыны і дзяцей у гэтай сям'і, абавязку кожнага перад ёй. А адсюль і асэнсаванне сувязі мінулага з будучыняй праз цяперашняе. Умоўна кажучы, з гэтага моманту прырода і чалавек разышліся. Наш продак стаў чалавекам: жывёлай, якая спасцігае сэнс уласнага існавання.

На гэта пайшлі тысячагоддзі. І гэтак жа запаволена закладваліся асновы таго грамадскага агульначалавечага інстытута, які мы называем культурай. Гэта першыя спробы аблегчыць пакуты набытага і асэнсаванага бліжняга свайго: аказанне дапамогі, лячэнне, лекаванне. Наступным крокам мог быць клопат пра абарону і правы на яе, пра размеркаванне прадуктаў і правы на іх, пра адказнасць перад сям'ёй і племенем, пра наследаванне правоў і г. д. Гэта і ёсць усё тое, што мы цяпер аб'ядноўваем у паняццях маралі і права.

Набыццё сэнсу выклікала да жыцця прынцыпова новую пабудову чалавечай супольнасці, якое ўлічвае не сілу і клыкі важака, а ўменне правадыроў карыстацца дабротамі пратакультуры (першаснай), яе зберажэнне і памнажэнне. Плямёны, якія арыентаваліся, кажучы па-сучаснаму, на астаткавы прынцып на культуру (як СССР усе гады свайго існавання), былі змецены з твару зямлі больш дальнабачнымі суседзямі, якія зразумелі, што культура — не харавыя спевы каля вечаровага вогнішча, а банк вечна дзейных ідэй і школа найбольш рацыянальнага вядзення племяннои гаспадаркі і міжплемянных адносін.

Мастацтва ўзнікла значна пазней і не на базе асэнсаванай неабходнасці, а на базе залішняга прадукта, які з'явіўся ў выніку падзелу працы, і залішняга вольнага часу. Тут да месца ўдакладненне: гэта ж толькі мы, усё яшчэ савецкія людзі, бачым у мастацтве (і толькі выключна ў ім!) перш за ўсё саму культуру. У дарэвалюцыйнай жа Расіі панаваў агульнаеўрапейскі прынцып: людзі мастацтва лічыліся багемай, задавальняліся гэтым і менавіта ў багеме бачылі сваю сацыяльную нішу. А культуру Расія звязвала, як і дасюль звязваюць усе цывілізаваныя краіны, з іншымі прадстаўнікамі: юрыстамі, урачамі, настаўнікамі, журналістамі, дзеячамі навукі і царквы, і асабліва бізнесу — з прадзюсерамі, кнігавыдаўцамі, уладальнікамі карцінных галерэй, тэатраў. Высокае становішча ў культуры займалі вельмі буйныя пісьменнікі, якія заўсёды валодалі душой народа. Вось якія сілы вырашалі лёс культуры і сёння іграюць асноўную ролю ў культурнай палітыцы Еўропы, Амерыкі і ўсяго цывілізаванага свету.

Грамадскае прызначэнне мастацтва, калі гаварыць коратка, — прадбачыць і перасцерагаць. Гісторыя дае мноства прыкладаў, калі мастацтва своечасова прадбачыла і настойліва перасцерагала грамадства, звонячы ва ўсе званы. Так, яшчэ больш за сто гадоў таму Ф. М. Дастаеўскі ў рамане "Бесы" "прадбачыў" развіццё Расіі ў сярэдзіне XX стагоддзя, але — не быў пачуты і не быў зразуметы. Чым ніжэйшы культурны ўзровень народа, тым большае месца ў яго жыцці займае другасны бок мастацтва — забаўляльны.

Асноўная прыкмета мастацтва заключана, перш за ўсё, у яго форме: мастацтва ёсць спосаб спажывання культуры. А мастацтва, пазбаўленае прадказання і перасцярогі, лёгка ператвараецца ў звычайны тавар. У асноўным менавіта такую ролю яму адводзіла кіруючая камуністычная партыя.

Узрост культуры роўны ўзросту чалавецтва, бо культура і была яго павітухай. Паміж Гегелем і Сахаравым, з аднаго боку, дзікунамі і бамжамі — з другога, няма рашуча ніякай фармальнай розніцы. Але розніца фактычная, якая заключаецца ў якасці набытага сэнсу, невымерная і натуральная: першыя ствараюць, а другія толькі спажываюць або, горш за тое, — разбураюць.

У кожнага этапу чалавечага развіцця сваё спасціжэнне сэнсу, свая культура: спрошчана масавая для большасці і вытанчана-элітарная для вузкага кола зазірнуўшых за далягляд. Культура, нават нацыянальная, не адзіная і не можа быць такой. Яна заўсёды — сума больш дробных культур: каставых, саслоўных, сямейных. Культура сямейнага ўзроўню пры ўсёй яе прастаце і абмежаванасці з'яўляецца падмуркам, на якім узводзіцца ўвесь яе велізарны будынак. Гэта свайго роду візітная картка чалавецтва. Дзесяць запаведзяў Нагорнай пропаведзі разлічаны зусім не на плямёны і народы. Гэта — кодэкс сям'і, які вызначае яе маральна-прававыя нормы.



*Фота А. Клешчука*

Верагодна, не было ў агульначалавечай культуры больш пакутлівага і супярэчлівага шляху, чым усведамленне прававой роўнасці людзей. Гэты працэс прадаўжаецца і дасюль, бо далёка не ўсе народы і дзяржавы зразумелі і прынялі абсалютную роўнасць людзей перад законам. Вось і наша Рэспуб-ліка Беларусь, на словах дэкларуючы гэту роўнасць у штодзённым жыцці, пакуль яшчэ не здольна зразумець нават прэзумпцыю невінаватасці. У пацвярджэнне гэтага спашлюся на сітуацыю, што склалася пасля затрымання групы Паўла Шарамета — супрацоўнікаў ГРТ (Грамадскае расійскае тэлебачанне). Разыграны чарговы фарс, які можна ахарактарызаваць, як "бура ў шклянцы вады". Як гэта і практыкуецца ў такога роду справах: "факты" прыцягнуты "за вушы белымі ніткамі", якія кідаюцца ў вочы кожнаму непрадузятаму, а на саміх арганізатарах "гараць" шапкі. Доказы? Колькі заўгодна! Першы: ніхто пры "пераходзе" граніцы "групу" не затрымаў, ды й сама граніца там выразна не пазначана. Другі: літоўскія ўлады, чыю мяжу яны нібыта перайшлі, не маюць да іх ніякіх прэтэнзій. Трэці: пра тое, што яны пабывалі на мяжы, стала вядома пасля таго, як яны самі аб'явілі пра гэта. Мэта іх акцыі была ў тым, каб паказаць празрыстасць мяжы: беспярэшкодна праходзяць усе і правозяць усё. Менавіта на гэта заплюшчвалі вочы беларускія ўлады. Вось ужо сапраўды: замест удзячнасці за працу, крымінальнае пакаранне.

Толькі абсалютная і гарантаваная дзяржавай свабода ўласнай ініцыятывы здольна перавесці культуру на вышэйшую прыступку ўзаемаадносін асобы і дзяржавы. Толькі ў такім грамадстве можа **з'явіцца рынак асоб**, г. зн. неад'емнае права кожнага атрымліваць па рэалізаваных здольнасцях. Яскравым прыкладам такіх узаемаадносін з'яўляецца Японія.

Расія ўзрастала на стыку трох культур — Захаду, Усходу і Поўдня. Таму такі характэрны для нас вобраз — "Віцязя на раздарожжы" ўвасабляе ростань і нашай культуры. Хрысціянства ў нас візантыйскае, кваціста-паўднёвае і прастадушна-хітраватае. Уяўленні аб правах улады і правах грамадзян спрошчана-ўсходнія. Захад спакон веку — задоўга да Пятра — дражніў Русь дэмакратыяй і пратэстанцкім духам. Ён прадставаў то ў ролі вырататавальніка, то — спакушальніка, што і расколвала на заходнікаў і славянафілаў. У гэтым і заключаецца асаблівасць славутага ўсходнеславянскага духу.

У царскай Расіі не існавала Міністэрства культуры, але адзначаліся залатое і сярэбранае стагоддзі рускай культуры. Пісалі Дастаеўскі і Чэхаў, пераасэнсоўваў тэатр Станіслаўскі, сатрасалі сцэны судоў вялікія адвакаты, засноўвалі бальніцы Боткін і Скліфасоўскі, намацвалі свае накірункі ў жывапісе Рэпін і Врубель, тварылі ў музыцы наватары "Магутнай кучкі" і Чайкоўскі, спрачаўся з усемагутнай царквой Талстой. Выходзілі сотні часопісаў і тысячы газет. І ніякае "око государево" не перашкаджала гэтай адзінай у гісторыі Расіі Культурнай Рэвалюцыі. Расія сілай духу, а не вагой мяча трывала забяспечвала за сабой права на аднаго з культурных лідэраў свету, а праца яе дактароў, юрыстаў, настаўнікаў, філасофаў і паэтаў цанілася ці не найбольш важка ў Еўропе.

Урады як Леніна, так і Сталіна спакойна абыходзіліся без сур'ёзнага культурнага напрамку. Наадварот, пасля бальшавіцкага перавароту 1917 года пытанні культуры больш за дваццаць гадоў "вырашаліся" органамі ВЧК-АДПУ-НКУС і яшчэ дзесяць — указаннямі Жданава. Жыццё і культурны працэс ускладніліся, а Мінкульта не было. Ён з'явіўся толькі пасля смерці Сталіна. Ва ўмовах хрушчоўскай "адлігі" старыя метады спрацоўваць ужо не маглі. Працэс барацьбы рускай культуры і савецкай пры першым жа паслабленні татальнага тэрору пагражаў выйсці з-пад партыйнага кантролю. Да таго ж сама культура выявіла небяспечную тэндэнцыю да самаразвіцця, чаго адзінаасобна кіруючая дзяржавай кампартыя допусціць ніяк не магла.

Безумоўна, няма і не можа быць ідэальнага грамадства, але на сённяшні дзень сацыялізму ў бальшавіцкім варыянце так і не ўдалося даказаць сваіх пераваг. Наш "сацыялізм" не толькі не здолеў забяспечыць правы асобы, але аказаўся няздольным нават ліквідаваць феадальныя перажыткі. Наадварот, ён насаджаў таталітарызм, бязлітаснае падаўленне любога іншадумства, прывілеі кіруючай вярхушкі, грабежніцкую эксплуатацыю. А калі да таго ж дадаць адсутнасць дэмакратычных свабод, крывавы тэрор, прымат д'ябальскай ідэі сусветнай рэвалюцыі ў знешняй і ўнутранай палітыцы, катастрафічнае падзенне духоўнасці ва ўсіх без выключэння пластах грамадства, усеагульную ганебную галечу і развал эканомікі, то можна смела сцвярджаць, што ў нас адбылося рэзкае зніжэнне ўзроўню культуры ў поўным аб'ёме гэтага паняцця.

Нараджаючыся, чалавек праходзіць тыя ж этапы спасціжэння сэнсу, якія задоўга да яго праходзіла ўсё чалавецтва. Культура не закладзена ў яго генетычным кодзе і не наследуецца. Гэта даказалі сваім сумным вопытам мноства рэальных Маўглі, выхаваных жывёламі. Таму для аднаўлення культуры да ранейшага ўзроўню патрабуецца работа не аднаго пакалення.

І цяпер, у канцы XX стагоддзя, кожнаму непрадузятаму чалавеку стала зразумела, што спосаб вытворчасці (якім заўгодна "ізмам" яго не называй) у развітых (капіталістычных) краінах пры дэмакратычнай форме кіравання з'яўляецца найбольш прагрэсіўным, жыццяздольным і чалавечным, таму што дзяржава і грамадства робяцца кроўна зацікаўленымі ў найбольш поўным набыцці сэнсу існавання кожным грамадзянінам, гэта значыць у развіцці культуры.

### ІІ. АДРАДЖЭННЕ

У кожнага народа — свой шлях і свой час у набыцці агульнага сэнсу існавання, гэта значыць культуры. Расія (а разам з ёю і Беларусь) таксама ішла сваім шляхам, нарошчваючы духоўную магутнасць, і марудна, але няўхільна скарачала разрыў паміж народнай і элітарнай культурай. І калі браць за пункт адліку апошнія мірныя гады перад І-й сусветнай вайной (1910—1912), то ўзровень культуры быў невымерна вышэйшым за сённяшні, нягледзячы на высокі працэнт непісьменнага насельніцтва. Вось калі б пра культуру краіны меркаваць па ўменні грамадзян распісвацца, то савецкі ўрад не ведаў бы ніякіх клопатаў з інтэлігенцыяй. Менавіта такое ўяўленне пра культуру панавала ў нас пры Сталіне, а змены гэтага ўяўлення падштурхнулі Хрушчова нападаць на дагэтуль амаль паслухмянае мастацтва і безумоўна паслухмяную царкву, а Брэжнева — стварыць спецыяльны аддзел КДБ, накіраваны, па сутнасці, на барацьбу з уласнай інтэлігенцыяй.

Гібель набытага краінай за стагоддзі сэнсу пачалася тады, калі яго падмянілі спекулятыўнай ідэяй. Пра д'ябальскую сутнасць яе пісаў Дастаеўскі ў "Бесах" больш за сто гадоў назад. Камуністычная ідэалогія не мае ні адзінай для ўсіх гісторыі, ні нацыянальных традыцый, ні агульных радасцей і бедаў, значыць не з'яўляецца элементам народнай культуры. Яна была гвалтоўна прыўнесена звонку насуперак культуры і гісторыі, насуперак уяўленням народа пра Дабро і Зло. Ідэя ў самым пачатку аказалася захопнікам, акупантам ужо набытага народам сэнсу існавання. Гэты сэнс перашкаджаў ёй, чым і тлумачыцца планамерны татальны пагром усёй культуры (рускай, беларускай, украінскай і інш.) і бязлітасны тэрор супраць яе носьбітаў.

Усё наша жыццё прайшло ў несупыннай барацьбе д'ябальскай камуністычнай ідэі з набытым краінай сэнсам. Сэнс размываўся, разбураўся, апускаўся на ўсё больш нізкі ўзровень, але барацьба працягвалася і працягваецца цяпер, бо ў яе ўцягнуты ўвесь народ.

Сарамлівыя погляды на правы асобы былі канчаткова задушаны ГУЛАГам. У такой абстаноўцы традыцыйныя ўяўленні аб дэмакратыі заўсёды выклікаюць падазронасць у замежным іх паходжанні, свабода ўяўляецца ўсёдазволенасцю, галоснасць — зламыснасцю газетчыкаў і ўвогуле інтэлігентаў, а прэзумпцыя невіноўнасці і дагэтуль існуе толькі на паперы, а таму лёгка паперай жа і адмяняецца ці то па загадзе па гарнізоне, ці па ўказе прэзідэнта.

А ці магло быць інакш, калі партыя валодала не вопытам развіцця дэмакратыі, а вопытам барацьбы з ёй? Вось чаму ў канкрэтных умовах так званага сацыялізму не магла ажыццявіцца буржуазна-дэмакратычная формула справядлівасці, як роўнасці правоў і магчымасцей, але была ўкаранёна

*(Працяг на стар. 12)*

## ...І тое, што па-за словамі

**У Анатоля Кірвеля выйшла чарговая, пятая кніга — "Ласінае крэда". Як і дзве папярэднія, яна ўбачыла свет не ў дзяржаўным выдавецтве. Да выхаду зборніка спрычынілася ФМЛ "Пегасавы крылы". Наклад — невялікі, 500 экземпляраў. Хоць у сённяшніх умовах, калі паліграфічныя выдаткі ўзрастаюць, а беларуская мова зноў становіцца ў многіх не ў пашане, паняцце вялікі ці малы — адноснае. Для прыкладу, гэткім жа тыражом цяпер выходзіць і "Бібліятэка часопіса "Маладосць".**

**Гэтая кніга А. Кірвеля, несумненна, не пакіне абыякавым чытачоў, якіх вабяць творы са смелым аўтарскім эксперыментам, багатым палётам фантазіі, калі тое, што пішацца, ствараецца на мяжы рэальнага і магчымага. А яшчэ — калі рамкі самога жанру як бы "размываюцца".**

**"Ласінае крэда" А. Кірвель вызначыў як кампазіцыі. Іх — шэсць. І падобнае жанравае вызначэнне дазволіла яму праявіць вялікую мастакоўскую свабоду, пісаць раскавана, не баючыся, што цябе, магчыма, у якісьці момант не да канца зразумеюць.**

**"Ласінае крэда" не для лёгкага чытання, а для сапраўднай працы думкі, якая патрэбна тады, калі аўтар, імкнучыся заставацца самім сабой, не падстройваецца пад чытача, а прымушае самога чытача настроіцца на тое, чым жыве сам.**

**Гісторыя старога Лася і маладой Ласіхі — найперш, канечне, гісторыя кахання. А пачуцці — рэч сур'ёзная, ім, на думку П. Кірвеля, "пярэчыць нельга: іх можна толькі разумець альбо не..."**

**Але, зразумела, сваёй праблематыкай гэтыя кампазіцыі не абмяжоўваюцца. Праўдзівей, праблематыка гэтая закранае самыя розныя аспекты і жыцця людскога, і ўвогуле існавання чалавека ў нашым складаным і супярэчлівым часе.**

**Анатоль Кірвель, як і кожны творца, шукае шлях да ісціны і падказвае гэты шлях кожнаму, хто судакранецца з напісаным ім. Ён дапамагае адрозніць сапраўднае ад уяўнага, разабрацца ў вечных катэгорыях, якія з цягам часу не страчваюць сваёй першаступеннай вартасці:**

*...сапраўдная праўдзівасць*
*ды шчырасць —*
*зусім не ў словах;*
*сапраўдная праўдзівасць у тым*
*што паспяваеш зрабіць*
*паміж адным прыгожым словам*
*і другім*
*і тое*
*што ты зробіш за гэты час —*
*яно і застаецца...*
*а словы — мана...*
*шчырая прыгожая мана*
*ад якой крыху лягчэй*
*хіба ў той момант*
*калі адчайна і безнадзейна маніш...*

**Застаецца нагадаць чытачам, якія пакуль слаба знаёмы з творчасцю аўтара "Ласінага крэда", што А. Кірвель — адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў беларусаў Санкт-Пецярбурга. Развітаўшыся даўно з Беларуссю, ён не забывае яе, часта наведваецца на Бацькаўшчыну, а апошнім часам выдае тут і свае кнігі.**

**А. М.**

## Аднатомнік Максіма Гарэцкага

**Яго выпусціла ў свет выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў серыі "Школьная бібліятэка". У ім змешчаны два найбольш вядомыя творы класіка нацыянальнай літаратуры — раман-хроніка "Віленскія камунары" і аповесць "Камароўская хроніка", шлях да сучаснага чытача якіх, як у рэшце рэшт і ўсяго напісанага М. Гарэцкім, быў не такім і простым. Прынамсі, "Віленскія камунары" асобнай кнігай выйшлі толькі ў 1965 годзе. Доўга чакала свайго часу і "Камароўская хроніка", якая была апублікавана ў часопісе "Полымя" ў 1966 годзе.**

**Прадмову да кнігі напісаў доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Міхась Мушынскі.**

КРЫТЫКА

# У жанры антыутопіі

Тое, што Васіль Быкаў умее быць знаёма-незнаёмым, парадаксальна новым, вядома. Але і ў яго ёсць творы, якія з'яўляюцца прарывам на новыя паверхі мастацкага пазнання: "Мёртвым не баліць", "Сотнікаў", "Знак бяды". Апавяданне "Музыка", апублікаванае ў газеце "Народная воля" за 24 ліпеня, — з гэтага шэрагу. Празаік, які быў строгім рэалістам нават тады, калі апісваў сны і трызненне герояў, раптам напісаў антыутопію, павярнуўшы люстэрка не ў мінулае, як звычайна, а ў будучыню. І ў будучыню, як можна зразумець, не такую аддаленую.

Музыка, пясняр, прарок, медыум — традыцыйны ў беларускай літаратуры вобраз, пачынаючы з запісанай А. Сержпутоўскім казкі "Музыка-скамарох". У прытчы М. Багдановіча "Музыка", паэме Я. Купалы "Гусляр", паэме-казцы Я. Коласа "Сымон-музыка", апавяданні М. Гарэцкага "Страшная музыкава песня", вершаванай казцы М. Танка "Песня пра музыку Куліка" гэта сімвал надзвычайнай таленавітасці беларусаў, ад прыроднай іх настроенасці на высокае і прыгожае ў жыцці. В. Быкаў у гэтым пункце салідарны з папярэднікамі. Аднак нашы класікі тварылі ў пачатку стагоддзя, калі беларускі рух шпарка ішоў угару, а В. Быкаў з'яўляецца сведкам франтальнага наступу антыбеларускіх сіл на ўсё нацыянальна адметнае, як на крыніцу апазіцыйнасці і стыхійнага памкнення да свабоды. Сусветны кантэкст таксама мала спрыяе аптымістычнай надзеі. Эсхаталагічныя настроі, наадварот, абуджаюць роздум пра "канец гісторыі", "канец літаратуры", "разлік з мінулым".

Бадай, самым блізкім па сваім змрочным каларыце новаму Быкаву льга назваць апавяданне М. Гарэцкага. З тым адрозненнем, што папярэднік шчыра і абгрунтавана верыў у таямнічую сілу мастацтва: жорсткі пан Дастаеўскі (!) не здужаў "страшнай музыкавай песні" і сканаў ад жаху — такая праўда пачуцця гучала ў музыцы. Быкаў жа і раней, калі грамадства наша было літаратурацэнтрычным, пытаў сябе і іншых: "Дык што мы можам?". А цяпер, калі беларуская літаратура ў якасці жабрачкі апынулася на цвінтары, і наогул усумніўся ў магчымасці пісьменніка ўплываць сваім словам на ход падзей. Калі нават і "звышлітаратура", узор якой даў А. Адамовіч у рамане "Карнікі", не здольная адвярнуць беларусаў ад "светлага" мінулага. Антыутопія — жанр "звышлітаратуры" — апошняя спроба прабіцца да сумлення сваіх аглухлых, аслеплых, таўстаскурых сучаснікаў, суайчыннікаў.

Апавяданне "Музыка" пачынаецца як пастараль: узбярэжжа цёплага мора, офіс-гатэль, карыда-сіеста, жалюзі-ламбада, ідылія-буколіка. Можна падумаць, што безыменны герой-музыка начытаўся нанач Э. Хемінгуэя і сніць-трызніць у звыклай трохмернай прасторы. Так пачынаюцца амаль усе быкаўскія аповесці — расслаблена-запаволена, ажно здаецца, што вось-вось на сцэне ўзнікнуць знаёмыя постаці пастуха і пастушкі. Аднак ход падзей раптам паскараецца, выпадковасць нагрувашчваецца на выпадковасць, адна нечаканка змяняецца новай нечаканкай, — з'яўляецца чацвёртае вымярэнне: сам Час. Ад нядаўняга камфорту не застаецца і напаміну: "Узнік нейкі незразумелы гук, які і вынікаў невядома адкуль і чамусьці трывожыў слых". Як музыку героя цікавяць найперш гукі — яны казалі яму больш, чым што, пра навакольны свет. Адно — мернае гудзенне вентылятара пад столлю ці нават уздыхі кандышана на падваконні, а другое — гук, які ідзе ці то з глыбіняў Універсуму, ці то са спаду душы. Які пачынае трывожыць, нагадваючы пра нешта благое, што неўзабаве здарыцца.




*Шарж Алега Карповіча.*

У М. Танка героі чуюць музыку-спеў з усіх бакоў, а, услухаўшыся, кажуць: "Тут сама зямля такая!" Паэт, пясняр, музыка — усяго толькі чуйны орган, які адно перадае пачутую музыку. У В. Быкава — гэта спачатку гук, які выклікае дыскамфорт, затым — туга-настальгія, "пакліч крыві", і нарэшце — "хаўтурны матыў", "сумны харал", жалобны, урачысты рэквіем, "штосьці з Моцарта, Берліёза, вядомы матыў з другой санаты Шапэна". З-за вонкавых прыкмет зямнога раю, парадызу (мяккі дыван на падлозе, авангардысцкая карціна на сцяне з выявай карыды) праступае тое, чаго ён, сын эмігранта, ніколі не бачыў, але ўяўляў лепш, чым навакольнае: "Шырокі прастор узгоркавай даліны, зялёны ад маладой травы, але з выгляду зусім не прэрыя, не савана — шырокі

УРАЖАННЕ

# Малітва небу і зямлі

Жыццё і смерць... З першым мы звыкаемся як з безумоўнай данасцю, другое ўвогуле стараемся выцесніць у падсвядомасць. Між тым гэтая "салодкая парачка" існуе ў лучнасці, і аднойчы — у каго раней, у каго пазней — адкрываюцца вочы на іх непарыўнае адзінства. Вось як пра гэта піша Васіль Зуёнак:

***Пабачыш у чорным канверце***
***Ліст, напісаны небыццём:***
***"Хочаш жыць — рыхтуйся да смерці:***
***Смерць даецца разам з жыццём..."***

*("Азірніся ў магілу стагоддзяў...")*

Нельга з пераканаўчасцю сцвярджаць, што разуменне (ці веданне?) такіх ісцін прыходзіць з гадамі. Бо хтось і ў юнацкім узросце спасцігае глыбокія і сутнасныя рэчы, а ў кагосьці і ў семдзесят "у непрабудным сне душа", як пісаў адзін з маладзейшых паэтаў.

Тут дарэчы будзе прыгадаць даўні верш В. Зуёнка — 1962-га года пад назвай "Размова". У ім аўтар вядзе гаворку з самой смерцю, але звяртаецца да яе з чыста камсамольскім наскокам: "Смерць! Зубамі не ляскай..." Калі абстрагавацца ад бадзёрага рытму і запанібрацкага тону, то можна падзівіцца, як прабіўся гэты нетыповы для маладога Зуёнка верш сярод зямной — калі не прыземленай — тэматыкі.

Не ўстрымаюся ад цытаты з М. Бярдзяева з кнігі "Самаспазнанне": "Смерць я лічыў падзеяй больш глыбокай, больш асноўнай для жыцця, больш метафізічнай, чым нараджэнне".

Час падсумоўваць, падбіваць рахункі рэдка ў каго праходзіць без самарэфлексіі, без шкадавання. Занадта многа заўважаеш "неда-", калі пачынаеш азірацца:

***Недачакана і недаспаткана,***
***Недаспявана і недакахана...***

Разам з тым ёсць нешта важнейшае за непазбежную самоту: гэта адчуванне каштоўнасці кожнага пражытага імгнення, і болей — адчуванне недарэмнасці ўсіх жыццёвых урокаў.

●

***Жыццё — і развітанне, і абман:***
***Імгла ў былым і ў прышласці туман.***

***Жыццё — пытанне на крыжах дарог:***
***Накрэсліў лёс, ды разгадаць не змог.***

***Жыццё — малітва небу і зямлі:***
***Што міг бяссмерця і табе далі.***

"Навошта дадзена жыццё?" — пытанне з шэрагу "Што рабіць?" і "Хто вінаваты?" ("Жыццё ў шасці склонах"). Бяспройгрышны ход — абыгрыванне слова, за якім безліч індывідуальных шляхоў і лёсаў. Лёгкімі штрыхамі адзначае паэт вузлавыя моманты быцця: незваротнасць часу, непаўторнасць кожнай хвіліны, смерць матулі і ўласнае memento mori, урэшце — каханне як найвышэйшы ўздым душы. Паміж усім гэтым — проста побыт, проста бяздарны размен гадоў на дні, а дзён — на хвіліны.

Біблейскія матывы ў вершах В. Зуёнка не выглядаюць данінай модзе, бо прыйшлі не як кніжныя адгалоскі, а як частка духоўнага досведу. Пры развагах пра вечнае і непазбежнае няма ў яго надрыву, драматызацыі. З гумаркам піша паэт пра свайго анёла-ахоўніка, які разгортвае ягонае "дасье" ("Калі схілялася зямля...") "Лепшае жыццё" ўяўляецца яму, аднак жа, не вельмі рэальным, адсюль і лёгкая ўсмешка. Хіба ёсць на зямлі ці на небе месца, дзе не пакутуюць і не сумняваюцца?

***Будзе мудрасць без пазнання***
***І каханне без пакутаў,***
***І грахоўнае жаданне —***
***Зноў глынуць зямной атруты...***

*("Будзе рай, і песня будзе...")*

З разумення звышзадачы існавання паўстае іншае: усведамленне агульнасці, звязанасці чалавечых лёсаў: "Без мяне — вы не вы, як без вас — я не я..." Адсюль бясконцае здзіўленне — чаму лёс зводзіць тых, а не іншых людзей. В. Зуёнак напрамую, як некалі да смерці, звяртаецца да нябесных сфер. Невыпадкова адзін з вершаў мае назву "Пытанне да зорак". Зрэшты, гэта рытарычнае пытанне, і далёкія зоркі не шмат дапамогуць нам у нашых зямных мітрэнгах.

***У свеце прыватных думак***
***Жыве мой прыватны радок.***

Што за гэтым сцверджаннем — замкнёнасць у сваім асабістым свеце? Не, абарона ад грамадскага ціску, ад нівеліроўкі, ад рэальнай пагрозы стаць "царадворцам" са звонкім голасам. Актуальная, трэба заўважыць, тэма. Ідэйны раскол, як мы бачым, прайшоў праз сацыяльныя і маёмасныя пласты, нават праз сем'і. Хіба паэты — выключэнне? "Я не люблю зацыкленых газет" — прызнанне ўжо не філосафа, неназіральніка падзей, а іх удзельніка. Адно з выслоўяў патрапіла б стаць афарызмам:

***Ідэйны брэх на ідэйны грэх —***
***Сабачая, браце, справа...***

Спалучэнне філасафічнасці з публіцыстыкай можа падацца штучным, асабліва ў межах адной часопіснай ці газетнай падборкі. Але як ты выкінеш з жыцця ягоныя сацыяльныя варункі? Выключэнні здараюцца, але не так часта. Цяжка заплюшчыцца і не заўважаць абсурд дзяржаўнага маштабу:

***Азорваюць далягляд***
***Д'ябальскія прамяні:***
***Наперад — значыць, назад —***
***Будучыню не праміні!***

*("Вякамі турэмны нагляд...")*

Падчас у вершах такога плана мяккі па натуры аўтар крыху напружвае голас, ганьбуючы сягонняшнія парадкі, а яшчэ тадысяды пагульвае слоўцамі — як бы між іншым, дзеля захавання творчай формы. "Каментарыі — як крэматорыі", "Плошча не-жалезнасці", "Атруце молячыся ў скрусе" — гэта ўжо нешта "барочнае", барадулінскае. На жаль, тэхнічна бездакорны, выкшталцоны верш можа быць халодным, як чало нябожчыка. Умельства без душы — страшная, скажу вам, рэч, і яшчэ ні ў кога не павярнуўся язык назваць з'яву сваім найменнем. Надуманымі і сэнсава зацемненымі падаліся мне вершы "Паэту, кажуць, свой адзначан час...", "З кратэраў — як з картатэк...", "Узвіжанне — вужакі і вужы...".

Аднак па ўсім бачна: В. Зуёнку версіфікатарства "высокай пробы" не пагражае. Сведчаннем таму — паэтычныя нізкі апошняга часу ў "ЛіМе" (N 22) і "Полымі" (N 5), на якіх я і засяродзілася ў сваіх нататках.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

лясны далягляд без паселішчаў і дарог". Музыку, і аб тым сведчаць выразна новыя і новыя падрабязнасці (антоны, што "смачней за апельсіны, ананасы"), несумненна, "сняцца сны аб Беларусі", аб яго сапраўднай радзіме, зямлі продкаў, з якой яго звязвае таямнічая, сакральная сіла Так, так, сярод нябесных сфер, дзе гучаць харалы сузор'яў і галактык, дзе ззяе Паўднёвы Крыж і адкрываецца шырозны прасцяг Млечнага Шляху, самым прыцягальным пунктам для героя з'яўляецца Беларусь, далёкі, паўзабыты край бацькоў. Для яго, хто аб'ехаў, абляцеў цэлы свет, які так і не стаў бацькаўшчынай (тут ужо без Я. Купалы ніяк не абыдзешся!), няма нічога бліжэй і радней, як Радзіма. Тлумачэнне? Тлумачэнне даў яшчэ Ф. Скарына, які разгарнуў евангельскі вобраз птушак, што імкнуцца да гнёздаў сваіх, і рыб, што шукаюць віры свае.

Герой, падобна, позна спахапіўся. Ён проста спазніўся. Як, здаецца, спазніліся і ўсе мы, заўважыўшы Атлантыду толькі тады, калі яна пачала апускацца ў вір вечнасці, у дрыгву бяспамяцтва. Герой, бадай, ужо ведаючы адказ, усё ж пытае: "Каго хаваеце?" І чуе адказ, ад якога робіцца вусцішна: "Народ хаваем..." Ён яшчэ не сцяміў трагічнага сэнсу пачутага: "Які народ? Чаму народ?" Сапраўды, а ці не адбылося гэта пахаванне тады, калі ў 30-м годзе была выслана на пагібель у Салаўкі і Якуцію эліта беларускага працоўнага сялянства, і напаткала нацыянальную інтэлігенцыю, соль беларускай зямлі, пагалоўшчына? Калі прарэджаную Курапатамі і Хатынямі беларускую вёску падмяў індустрыяльны горад, асяродак пралетарыяту, які "не мае айчыны", а зусім нядаўна пасыпаў радыяцыйным попелам Чарнобыль? І ці народ тыя 10 з нечым мільёнаў двухногіх істот, што топчуцца на гэтай зямлі сёння, не ведаючы, куды ісці, ці ў Еўропу, "дзе нас не чакаюць", ці на Усход, дзе мы бясследна растворымся ў бяскрайніх прасторах? Праўда, пакуль "жив хоть один пиит" застаецца надзея. Паэты, музыкі, мастакі сапраўды яшчэ жывыя і час ад часу падаюць аб сабе знак. Але калі памёр народ, ці доўга працягнецца век "я" асобы, памяццю, крывёю звязанай з яго вялікім целам? На месцы, дзе была Беларусь і дзе тысячу гадоў жылі беларусы, утварыўся Бермудскі трохкутнік, адбываюцца незразумелыя падзеі, разбіваюцца паветраныя шары, выбухаюць газаправоды, палаюць эшалоны з палівам, здараюцца адна за адной аўтакатастрофы... І вельмі можа стацца так, што ў гэту чорную дзірку ўцягне ўвесь Сусвет. Нездарма дзея ў апавяданні Быкава адбываецца на грандыёзным фоне Вялікага Космасу, а герой спалохана заўважае: "Так урачыста хаваць можна хіба што самога Бога". Ён тут жа спахопліваецца, згадваючы, відаць, караткевічаўскае: "На Беларусі бог жывы!" Надта мала боскага засталося ў тутэйшых людзях: "Але няўжо тут жыў Бог?"

В. Быкаў з тых мастакоў слова, для каго праўда даражэй за ўсё, а таму ён не можа лгаць чытачам і самому сабе, кажучы тое, што зразумеў. Але ён і сам сябе ніколі не залічаў да вялікіх аптымістаў, а з часам і зусім пранікся чорным песімізмам, няверʼем і безнадзеяй. На нашу бяду, ён мае рацыю. Аб гэтым сведчаць і ягоныя калегі, жыццялюбнасць якіх не падлягае сумненню. Вядомы факт развітання П. Панчанкі з роднаю мовай: спачатку знікаюць асобныя назвы і словы ("жураві", "сойка", "журавіны"). Менш вядомыя песімістычныя ноткі ў паэзіі апошніх гадоў М. Танка: "Часамі баюся ў рукі браць Геаграфічны атлас, Каб не ўбачыць На зямной паверхні, Замест святых імён Рэк, Ніў, Лясоў і сёл Маёй радзімы Кароткі надпіс: "Калісьці Была тут Беларусь". І яшчэ больш дакладныя радкі, быццам сёння напісаныя:

***Калі замірае пагудка народа***
***І сталі прадажнымі праўда і згода,***
***Зладзеі імкнуцца да ўлады гурбою,***
***А заклікі пахнуць агнём і крывёю,***

***Няменоць набатныя гулы званіцаў,***
***І перасыхаюць ад смагі крыніцы,***
***Без хлеба надзённага стол сірацее, —***
***Знай, што мы стаім над магілай Надзеі.***

Перад світаннем бывая шарая часіна, калі змрок асабліва згушчаецца і здаецца, што ноч ніколі не скончыцца. Але мы з вопыту ведаем, што гэта не так. З вопыту іншых народаў, якія перажылі нешта падобнае, але адшукалі ў сабе маральную сілу, каб адмовіцца ад ганебнага мінулага, перагледзець свае адносіны да жыцця, добра вядома, што не варта адчайвацца і ў самай безнадзейнай сітуацыі. Сусветная літаратура таму сведка. Герой "Доктара Фаўстуса" Т. Мана таксама музыка і таксама гіне, абазначыўшы сваёй смерцю самы нізкі пункт заняпаду свайго народа, пасля якога марудна, але няўхільна пачынаецца духоўны ўздым нацыі, якая адмовілася ад злачыннай нацысцкай спадчыны. У беларусаў іншая сітуацыя, і адносіны да камуністычнай мінуўшчыны іншыя, а таму працэсы духоўнага ўзняцця ідуць дужа марудна. Аднак яны ідуць. Засталося толькі навучыцца слухаць гук, гул, стогн роднай зямлі. Тады, магчыма, апакаліпсічная карціна, намаляваная В. Быкавым у яго антыутопіі, адступіцца ад нас хоць на крок.

**Міхась ТЫЧЫНА**

# Усё пра Кірылу Тураўскага

Летам 1995 года не стала даследчыка беларускай мінуўшчыны Аляксея Мельнікава, які раптоўна памёр на трыццаць трэцім годзе жыцця. Нягледзячы на малады ўзрост ён паспеў зрабіць нямала. Заявіў жа аб сабе як аб даследчыку, здатным рабіць значныя навуковыя абагульненні, ісці самастойным шляхам, кандыдацкай дысертацыяй, абароненай у 1990 годзе. Яна мела адметную назву: "Літаратурная гісторыя агіяграфічных паданняў пра Ефрасінню Полацкую". Навізной вылучалася і чарговая праца А. Мельнікава "Агіяграфія Беларусі XII—XVII стст.", у якой яму ўдалося гэтак глыбока і ўсебакова раскрыць гісторыю жанру жыцій на Беларусі. Па сутнасці, працягам гэтага даследавання стала для А. Мельнікава падрыхтоўка "Кнігі жыцій і хаджэнняў", якой выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў 1994 годзе адкрыла новую сваю серыю "Літаратурныя помнікі Беларусі". А яшчэ ў А. Мельнікава быў зборнік нарысаў "Путь непечален. Исторические свидетельства о святости в Белой Руси", што выйшаў у 1992 годзе.

Да ўсяго, А. Мельнікаў не адзін год працаваў над вывучэннем жыцця і дзейнасці славутага хрысціянскага падзвіжніка-асветніка, пісьменніка і прапаведніка Кірылы Тураўскага. Сталася так, што гэтай працы суджана было стаць свайго роду лебядзінай песняй таленавітага даследчыка. І вось кніга А. Мельнікава "Кірыла Тураўскі. Жыццё, спадчына, светапогляд" выйшла ў выдавецтве "Беларуская навука" пад навуковай рэдакцыяй В. Чамярыцкага, які, дарэчы, напісаў і прадмову, у якой прасочвае навуковы шлях А. Мельнікава, а таксама расказвае пра адметнасці ягонай апошняй працы. У пэўнай ступені пра гэта гаворыць на ўступе і сам А. Мельнікаў, калі заўважае, што "кожны гісторык ствараe сваю гісторыю".

Здзіўляцца падобнаму сведчанню не трэба. І не толькі таму, што кожны даследчык мае ўласны, у многім суб'ектыўны погляд на пэўныя падзеі, з'явы, на дзейнасць канкрэтных людзей. "Свая гісторыя" найчасцей пішацца тады, калі пад рукой няма неабходных фактаў і многае даводзіцца выводзіць інтуітыўна, а яшчэ, кажучы словамі В. Чамярыцкага, "патрэбна... адпаведная духоўная памкнёнасць і настроенасць, а таксама своеасаблівы талент, дар, каб чуць і разумець галасы мінуўшчыны, бо не кожнаму яна адкрывае свае таямніцы".

Апошняе асабліва важна ў дачыненні да вывучэння Кірылы Тураўскага. Пра жыццё і дзейнасць яго, як вядома, захавалася вельмі мала звестак. Сёе-тое можна "вычытаць" у яго творах, ды ў кароткім яго жыцці, таму А. Мельнікаў мусіў быў абраць такі жанр, як "гіпатэтычна-гістарычны нарыс", пра што гаворыць на завяршэнне раздзел "Жыццё і жыццё святіцеля Кірылы, Епіскапа Тураўскага".

Інакш кажучы, узнаўляючы вобраз Тураўскага, А. Мельнікаў мусіў яго як бы канструяваць, прадугадваючы тое, што магло быць у сапраўднасці, спрабуючы зразумець магчымы ход пэўных падзей, паваротаў у біяграфіі асветніка. А для гэтага, зразумела, трэба мець і смеласць, і высокую падрыхтоўку.

У кнізе прадстаўлены найбольш поўны збор твораў Кірылы Тураўскага, а гэта таксама патрабавала немалой даследчыцкай работы, найперш пошукавага характару. А. Мельнікаў не сумняваўся ў аўтарстве 68 тэкстаў. Магчыма, і не ўсе яны належаць Тураўскаму, але кожны мае права на ўласную думку. Мею яго і А. Мельнікаў.

Апошнюю старонку кнігі "Кірыла, епіскап Тураўскі" загортваеш з самотлівым роздумам: няўжо і на самай справе над беларускай зямлёй "вісіць" нейкая наканаванасць, калі самыя таленавітыя на ўсе часы так рана адыходзяць з жыцця? І разам з тым, не пакідае ўсцешнасць: новае пакаленне даследчыкаў, як і іх папярэднікі, неабыякавае да нацыянальнай мінуўшчыны. Колькі гадоў назад па-новаму асэнсаваў жыццё і дзейнасць Сымона Буднага Іван Саверчанка, а цяпер вось — кніга А. Мельнікава пра Кірылу Тураўскага.

**Вячаслаў АНІШЧЫК**

ВІНШУЕМ!

# Космас пачынаецца... на зямлі

## Івану ПТАШНІКАВУ — 65

Наўрад ці можна згадаць у беларускай літаратуры яшчэ адзін падобны выпадак — праўленне калгаса сабралася, каб абмеркаваць... мастацкі твор. А адбылося гэта неўзабаве пасля таго, як студэнт пятага курса аддзялення журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта Іван Пташнікаў у 1957 годзе апублікаваў у часопісе "Полымя" аповесць "Чачык", што стала яго творчым дэбютам, калі не прыгадваць пад увагу некалькі вершаў, надрукаваных значна раней. Землякі маладога пісьменніка з вёскі Задроздзе, што на Лагойшчыне, пазналі сябе ў некаторых персанажах. Ды і вобраз галоўнага героя, прытым адмоўнага, навёў сяго-таго на думку, што з гэтым "пісьменнікам" неабходна як след разабрацца...



А па сённяшні дзень у пераважнай большасці прыхільнікаў таленту Івана Мікалаевіча складваецца ўражанне аб яго лёгкім уваходжанні ў літаратуру Калі мець на ўвазе, што талент хутка сцвердзіў сябе, дык, вядома ж, так. Тая ж аповесць "Чачык" (у кніжнай публікацыі "Ілюк Чачык") адразу выклікала некалькі станоўчых рэцэнзій. Аднак меркаваць, што на творчай дарозе пісьменніка не паўставалі тыя, хто хацеў кідаць (і кідаў!) пад яго "колы" шыпы, памылкова.

Асаблівых перажыванняў І. Пташнікаву каштаваў выхад яго другой кнігі — рамана "Чакай у Далёкіх Грынях" (1962). Перад гэтым твор быў апублікаваны ў часопісе "Полымя". Нехта В. Крышталь выступіў у "Літаратуры і мастацтве" з рэцэнзіяй "Пошукі ці літаратурная бравада", абвінавачыўшы аўтара ў неіснуючых грахах. А раман якраз рыхтаваўся да выпуску ў тагачасным Дзяржаўным выдавецтве БССР. Дырэктар яго З. Матузаў зрэагаваў аператыўна і прадставіў галоўнаму рэдактару Я. Казеку і загадчыку рэдакцыі мастацкай літаратуры М. Татуру "Некаторыя заўвагі ў сувязі са здачай рэдактарам Дамашэвічам у набор рукапісу рамана І. Пташнікава "Чакай у далёкіх Грынях". "Заўвагі" займалі ажно 12 старонак машынапісу. Вывік, як і трэба было чакаць, быў адназначны: "Выдаваць раман... нельга, ні ў варыянце, які пісьменнік прадставіў, ні ў некалькі падрамантаваным выглядзе".

На шчасце, да твора з паразуменнем паставіліся на пасяджэнні секцыі мастацкай літаратуры рэдсавета гэтага ж выдавецтва. Пераважная большасць з тых, хто выступіў, далі рэзкі адпор рэцэнзенту і, не пагадзіўшыся з меркаваннямі З. Матузава, прагаласавалі за выданне рамана.

Магчыма, і не трэба было б пра гэта ўспамінаць. Магчыма... Але ж як шмат развялося сёння пакутнікаў сярод тых, хто некалі добра прыстасаваўся ля партыйнай кармушкі, а цяпер даказвае, які ён быў святым і бязгрэшным! Што да І. Пташнікава, дык ён у камуністычную партыю не ўступаў (ды і ў іншыя, як бяццам, уступаць не збіраецца), на мітынгі не хадзіў (і не ходзіць), ды і сцяг у яго адзін, які ніколі не трэба мяняць, — сцяг праўды, сумлення, прынцыповасці.

Усё, што з'явілася з-пад пяра Івана Мікалаевіча, — самай высокай мастакоўскай пробы. Любая высокаразвітая літаратура свету палічыла б за гонар мець такія творы, якія напісаны ім. Ды і талент яго развіваецца ў рэчышчы лепшых сусветных традыцый.

А да збору яго твораў у чатырох тамах вельмі стасуюцца словы знакамітага У. Фолкнера: "...я выявіў, што мая ўласная малюсенькая паштовая марка роднай зямлі варта таго, каб пісаць пра яе, што майго жыцця не хопіць, каб вычарпаць гэту тэму, і што, надаючы сапраўднаму высокі пераносны сэнс, я атрымліваю поўную свабоду развіваць магчымасці свайго таленту, якім бы ён ні быў. Гэта адкрыла мне залатую жылу іншых людзей; я стварыў уласны космас".

Космас І. Пташнікава жывіцца сокамі роднай зямлі, а калі дакладней — жыватворнымі вытокамі Лагойшчыны. Пaслядоўным летапісцам родных мясцін пісьменнік стаў, пачынаючы з аповесці "Лонва", у якой упершыню прыгадаў Мсціжы, як увасабленне "малой радзімы". Прыгадаў гэтаксама, як успамінаў у свой час Кузьма Чорны родныя Цімкавічы. Вядомы чорнаўскі выраз: "Пра цімкаўцаў можна расказваць бясконца". І. Пташнікаў пра мсціжаўцаў таксама можа расказваць бясконца — не паўтараючыся, а з кожным новым творам яшчэ больш заглыбляючыся ў лёсы землякоў.

"Лонва", "Тартак", "Мсціжы" (у 1978 годзе адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР)... Якая гэта псіхалагічна глыбокая, жыццёвая, сакавітая проза! Сёй-той можа сказаць, што чытаць І. Пташнікава цяжка. Было і сярод крытыкаў жаданне паўшчуваць яго за гэта. Толькі выказвалі яны не столькі свае думкі, колькі выконвалі "сацыяльны заказ" пэўнага асяроддзя, якое вельмі ж дбае пра чысціню сваіх шэрагаў і "чужых" туды не збіраецца пускаць.

Што на падобныя папрокі можна адказаць? А мо лепей пытанню супрацьпаставіць іншыя пытанні? А калі лёгка было чытаць Льва Талстога, Фёдара Дастаеўскага? Хіба адолееш іх творы, у адзін прысест? А той жа Фолкнер, Эрнест Хемінгуэй, іншыя сусветныя славутасці — яны што, "прапаноўваюць" праводзіць час за сваімі творамі з кубкам кавы ці чаю?

Вяршыня творчасці І. Пташнікава на сённяшні дзень — яго раман "Алімпіяда". Нельга не пагадзіцца з Генадзем Шупеньказ, які паставіў гэты твор услед за "Палескай хронікай" Івана Мележа. Працягваючы праблематыку ранейшых твораў — найперш рамана "Мсціжы", — "Алімпіяда" ўзнімае яе на новую вышыню, больш значную ступень мастакоўскага раскрыцця і асэнсавання. І несумненная ўдача пісьменніка — вобраз галоўнай гераіні, прататыпам якой у пэўнай ступені стала яго маці.

Апошнім часам Іван Мікалаевіч зноў звяртаецца да апавядання, у жанры якога мае вялікія набыткі, аб чым, у прыватнасці, сведчыць яго кніга "Сцяпан Жыхар са Сцешыц" (1966). Сярод новых твораў "малога жанру", вядома ж, у першую чаргу трэба назваць апавяданне "Львы", якое было перакладзена на некалькі моў. Не прайшлі незаўважанымі і дзённікавыя запісы І. Пташнікава, ухвальныя водгукі сустрэла яго эсэ "Ірга каласістая"... Шырокі рэзананс мела і нядаўняе апавяданне "Французжанкі", у якім аўтар знайшоў свой паварот у асэнсаванні тых працэсаў, што былі звязаны з дзейнасцю таталітарнай сістэмы, яе насіллем над чалавекам.

Дарэчы, вось ужо не першы год Іван Мікалаевіч нязменна свае новыя творы прапаноўвае "ЛіМу", што, вядома, робіць вялікі гонар нашаму штотыднёвіку. І хочацца верыць, што і ў далейшым ён парадуе чытача цікавымі і значнымі творамі. Інакш і быць не можа, бо космас І. Пташнікава аб'ёмны і пастаянна жывіцца талентам вялікай жыццядайнай сілы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## "Ад маўчання мне некуды дзецца..."

Такім радком пачынаецца верш "Ранак" Іны Снарскай, ураджэнкі Полацка, аўтара паэтычнага зборніка "Пацеркі" (1994). Зараз яна жыве ў Палтаве на Украіне, піша і друкуецца па-беларуску, узначальвае згуртаванне беларусаў Палтавы. Кніга яе вершаў рыхтуецца да друку і ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Нізка вершаў паэткі разам з вершамі яшчэ аднаго беларускамоўнага паэта і перакладчыка Івана Літошы, кіяўляніна, увайшла ў склад анталогіі разнамоўнай паэзіі Украіны "На нашій, на своїй землі", якая выйшла ў Кіеве ў мінулым годзе. Гэта ўжо трэцяя кніга анталогіі і змяшчае яна творы паэтаў, якія жывуць на Украіне і пішуць на нацыянальных мовах: англійскай (А. Фролкін), беларускай (І. Літош, І. Снарская), балгарскай (В. Калаянаў, Н. Стаянаў, Т. Танасава), грузінскай (І. Гамсахурдзія), ідыш (А. Лізен), польскай (Я. Голібард, Я. Паўлюк), рускай (Л. Давыдзенка, Л. Дзесятнікава-Марыніч, В. Дробат, І. Раздабудзька, І. Радчанка, С. Шаталаў), венгерскай (Г. Барто, Й. Жаліцкі, Ю. Шкрабінец), узбекскай (М. Бекжан).

Паэтычныя творы зборніка аб'ядноўвае гучанне іх па-ўкраінску. Тэксты вершаў падаюцца паралельна на дзвюх мовах. Пра кожнага аўтара прыводзяцца кароткія аўтабіяграфічныя звесткі.

Кніга "На нашій, на своїй землі" выдадзена ў Галоўнай спецыялізаванай рэдакцыі літаратурных моў нацыянальных меншасцей Украіны па замове Дзяржкамітэта Украіны па справах нацыянальных меншасцей і эміграцыі. Укладальнік — А. Майсеенка.

Выданне, безумоўна, уяўляе цікавасць як прадукт украінскага кнігавыдання, літаратурнай працы на Украіне іншых народаў; служыць цудоўным прыкладам узаемаўплыву розных культур. Каштоўнасць анталогіі вызначаецца яшчэ адным аспектам — краязнаўчым. З поспехам "На нашій, на своїй землі" папоўніць і скарбонку беларускай літаратуры, якая жыве і развіваецца за межамі бацькаўшчыны.

**Ларыса ДОЎНАР**

## "Наш духоўны скарб"

Так называлася пазнавальна-мастацкая вечарына, якая адбылася ў Магілёўскай абласной бібліятэцы. Прысвячалася яна дню беларускай пісьменнасці і друку, а ўдзельнікамі яе сталі вучні агульнаадукацыйных школ абласнога цэнтра. Старшы навуковы супрацоўнік абласнога краязнаўчага музея Барыс Сідарэнка расказаў пра гісторыю друку на Магілёўшчыне, сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі Уладзімір Дуктаў пазнаёміў вучняў са здабыткамі літаратараў Прыдняпроўскага краю, заслужаны работнік культуры Валянцін Ермаловіч распавёў аб сваім удзеле на пачатку верасня ў рэспубліканскай навукова-творчай экспедыцыі "Дарога да святыняў", выкладчыца Магілёўскага вучылішча культуры Лілія Кузьменка паказала прысутным монаспектакль "Жыціе Еўфрасінні Полацкай". Удзельнікі вечарыны азнаёміліся і з кніжнай выставай "Напісанае застаецца".

**У. САСНОЎКІН**

## "Белы клык" і іншыя

На творах Джэка Лондана, як вядома, выхоўвалася не адно пакаленне чытачоў ва ўсім свеце. У іх нязменна прыцягвае востры сюжэт, валявыя, моцныя духам героі, а таксама тая рамантыка, без якой не абыходзіцца ў жыцці кожны, хто толькі ўваходзіць у яго. Таму напісанае Д. Лонданам найперш карыстаецца вялікай папулярнасцю ў юнага чытача. Цяпер з найбольш вядомымі творамі гэтага пісьменніка можна пазнаёміцца ў кнізе "Белы клык", якую выдавецтва "Полымя" выпусціла ў "Школьнай бібліятэцы". Пераствары́ў напісанае Д. Лонданам па-беларуску А. Саламевіч.

## ПАЭЗІЯ

### Данута БІЧЭЛЬ



## "Гэта лёс мой..."

### Максім і Людвіка

*Максім з Людвікай у ваенным Мінску.*
*Зіма суровая, расстанне блізка.*
*Не даў ім Божа ні вясны, ні лета.*
*Але пакуль не думаюць пра гэта.*

*Гародню ўспамінаюць добрай казкай.*
*Паміж Садовай і Гараднічанскай*
*крывая кладачка на Гарадніцы.*
*Яна дагэтуль кожнаму з іх сніцца.*

*Два беражкі злучаў масток праз Нёман —*
*яе жвіровы і Ягоны стромы.*
*На тым мастку пагойдацца любілі.*
*Ён зняў ёй туфлік і вадзіцу выліў...*

*На вуліцы Мінска у ваенны студзень.*
*"Але жывем мы, як чужыя людзі, —*
*так напісаў у карцы асцярожна. —*
*— І да чаго дадумацца тут можна..."*

### Месяц і зорка

Не, зорка, мне было не больна.
**Максім БАГДАНОВІЧ**

*Зямлі драбнюткая раслінка —*
*жыццё пакінута другім.*
*У небе месячык Максім,*
*а з ім і зорка Веранікa.*
*Цямрэчу асвятляюць нам:*
*глядзіце ўвыш — натхненне там.*

*Пакутная ў адхлань дарога*
*пятляла з Яраслаўля ў Менск.*
*Ён думаў дома болю менш...*
*А з Менска ў Ялту — і да Бога.*
*А нам пакінуў чысты верш.*
*А пекнасць зор не мае меж.*

### У Тваім доме

*Я жыву ў Тваім доме, Максіме.*
*Гэта лёс мой. Мяне не прасілі.*
*На Твой голас іду, Тваім следам.*
*Так, іду за вялікім Паэтам.*

*Саламяную казку ствараю.*
*Покуль райская птушка да раю*
*даляціць з саламянае казкі,*
*за Цябе гавару "Анёл Панскі".*

*Вось заходзяць*
*да нас кантралёры —*
*злыя, хворыя, з бруку, з канторы.*
*Раздражнее іх дух Тваёго дому —*
*шчэ савецкую маюць аскому.*

*Вось прыехала вёсачка з лета*
*у святое дзяцінства Паэта,*
*дзе іх кнігі, іх продкаў імёны,*
*дзе катае іх конік натхнёны.*

### Наша камета

*Ноччу нябёсы святыя, Максіме.*
*Я дацярплю тут*
*пры кожным рэжыме.*
*Буду маліцца, і Бог мяне прыме.*

*Ты ў ракуцёўскае шчодрае лета*
*па незацверджаны статус Паэта*
*з неба зваліўся, як наша камета.*

*Наша камета зоркай хвастатай*
*некалькі месяцаў свеціць над хатай.*
*З ёй дачакаемся Божага Свята.*

*Дробна трымціць мая душачка*
*ў целе.*
*Бог на жывых і на мёртвых не дзеліць.*
*Злучыць нас Божае Свята —*
*нядзеля.*

### У нябёсах

*Каб не спаў Паэт у Крыме,*
*памаўчаў бы тут са мною.*
*Дык маўчу — з кім Божа прыме,*
*ды маўчу сама з сабою.*

*Я Цябе спаткаць хацела,*
*каб сабачка бег за намі,*
*але Словам стала цела*
*ды вясновымі грамамі.*

*Гэта Слова камень точыць,*
*адбіваецца на лёсах.*
*Гэта свецяць Твае вочы*
*у нябёсах, у нябёсах...*

### Басанож

*Я нарвала ў даліне лотаці.*
*Я схадзіла нашча да споведзі.*
*Мне захрас у сэрданьку нож.*
*Палячу, сабраўшы ўсе сілачкі,*
*на спатканне з душой Максімавай*
*у блакіт нябёс басанож.*

*Заслужыла я смерць раптоўную.*
*Ціхай песняю малітоўнаю*
*расплакалася за спакой.*
*Дык прыміце душачку ўбогую,*
*маю душачку басаногую,*
*Божа мой і Паэце мой!*

### Арэшка

*З-пад яснага блакітнага застрэшка*
*спускаўся, каб пастрашыць, павучок,*
*як да людзей выходзіла Арэшка,*
*з-пад Скідаля шляхетнае дзяўчо...*

*Абцасік модны маладой Элізы*
*драўляных ходнікаў кранаўся ледзь,*
*аж галубы ўзляталі на карнізы,*
*аж хлопцы выбягалі паглядзець...*

*Варшаўскі свет не раскусіў Арэшку —*
*якой зямлі была яна дачка.*
*Так рызыкоўна стала на сумежку.*
*На градку пасадзіла Бурачка.*

### Ойча наш

*Ойча наш, які ўсюды прысутны,*
*Ойча, нас абмінаеш чаму Ты?*
*Працягні свае добрыя рукі —*
*тут растуць Твае добрыя ўнукі.*

*Разгарні свае цёплыя крылы —*
*гэты Край безбаронны і мілы,*
*Край наш Божы, багаты калісьці,*
*ад начальства тупога ачысці.*

*Укладзі, Божа, нашым суседзям —*
*святарам, прэзідэнтам, іх дзецям —*
*у галовы хоць крышачку звілін,*
*каб пра нас яны думаць забылі.*

*Ойча наш, добрым сэрцам пачуты,*
*не кідай сваёй служкі Дануты,*
*сваіх служак Андрэя і Стася...*
*І Антонік малы засмяяўся...*

### Мае дарагія

*Унук маленькі, ты прыбыў здалёк,*
*пераадолеў і нябыт і змрок*
*і закрычаў галосна, як гармонік.*

*Пабольшала прыгожая сям'я.*
*І як малітва, Божае імя.*
*І пробашч ахрысціў яго — Антонік.*

*А на карцінах мамы маладой*
*стаіць прыгожы горад над вадой*
*і мама ў ім дамы перастаўляе —*

*так, як на кухні міскі і гаршкі.*
*Даў Бог ёй свет парадкаваць такі,*
*дзе Стасік і Антон, яе сынкі...*

*А іх сабачка каля іх гуляе...*

### Мама і тата

*Ах, мае сонейкі — мама і тата!*
*Я нарадзілася, я вінавата.*
*Грэлі сабой у гняздзечку пасцелі,*
*бо пачалі мяне, а не хацелі.*

### Божа, збяры нас

*Бацька ў шыхты за Пілсудскім пасееў.*
*Дзядзька за іх у ГУЛАГу гібеў.*

### Сяргей ВЕРАЦІЛА



## "Я збудаваў свой свет..."

●

*Над зялёным гаем, над маім*
*Сёння сцелецца і ўецца*
*горкі дым.*

*Ноч сканае, стане ранак*
*залатым,*
*А над гаем, над шумлівым —*
*чорны дым.*

*Я пайду, і стане свет пустым,*
*А над гаем, над вясёлым —*
*пойдзе дым.*

●

*Я збудаваў свой свет*
*з чароўнай мары,*
*Хоць і няма пад небам гэтым міру.*
*А ўсё ж пяе абуджаная ліра:*
*Я збудаваў свой свет*
*з чароўнай мары.*

*Нямала песняроў пакутуюць над жвірам.*
*На іх касцях святкуюць*
*розныя пачвары. —*
*— Я збудаваў свой свет з чароўнай мары,*
*Хоць і няма пад небам гэтым міру.*

●

*Лісце апала.*
*Жалезная восень*
*Паўсюдна шалее.*
*Голае, шэрае неба,*
*Іржа пад нагамі,*
*А сонца*
*Быццам паслухалася загаду*
*Звар'яцелага генерала*
*І спынілася недзе ў далёкай*
*Імперыі фарбаў, якія*
*Здаецца, у гэтай Краіне*
*Забыліся восень.*

*Жалезная восень паўсюдна шалее.*
*Голыя дрэвы ад смутку ўцякаюць*
*І не палохае іх забарона*
*Чырвонага колеру "стопа".*
*Жалезная восень.*
*Чакаю, што выпадзе белы*
*І з восенню голай памірыць*
*СНЕГ.*

●

*Заплача неба нада мной,*
*Я стану слухаць дождж.*
*Я так люблю яго спеў.*

*Я стану марыць.*
*Лёгкі дым*
*Павейкі злучыць.*
*Стану спаць.*

*Трывожны сон.*
*Я зноў прысню:*
*Той дождж,*
*Што нада мной заплакаў.*

●

*Словы! Словы б кінуць у агонь.*
*Ды бяда,*
*Не гараць за папераю*
*ўслед мае словы!*

*І на шызых, згарэлых старонках*
*Кроў чырвоная зрок апяча.*

*Будзе сонца па небе каціцца,*
*Будзе месяц ў рацэ адбівацца,*
*Будзе бэз бушаваць па гародах,*
*Будзе снег ападаць на зямлю.*

*І не будзе мяне!*
*Нават цень не пакіну ля белага муру.*

Свёкар занёс свае косці пад Ржэў.
Муж тут з хваробамі біўся, як леў.

Нёман ізноў тут ляжыць, як у сне.
Хутка ізноў тут вайна палыхне.
Сын мой, не йдзі на вайну без мяне.
Божа, збяры нас на гэтай вайне.

## Каложа

Цудны Каложы снапок:
кветка і крыж.
Цуд гэты звыш.
Цуд гэты вытварыў Бог.
Так чалавек бы не змог.

●

Шэрыя туфлі з абцасамі
адхапіла за маркі...
Па каменьчыках бегла.
Можна бегчы за хмаркі
да Максіма, да мамачкі,
прыхапіўшы мядзяны грош...

Але пчолкі ды ластаўкі
і туды лятуць басанож...

Адпусціце самотную!
А туды не ходзяць пад ручкі.
Абразок папяровы
пакладзіце ў халодныя ручкі.
Апусціце ў бязмеж
вечаровае цішы і ценю...
Хай паколюцца мае ножанькі
аб святое райскае церне.

●

Калі паміж мной і Духам Святым
ніякая моц не паўстане,
тады не збірайце з лісточкаў вады,
тады не марнуйце світанне.

Калі ж і да сноў, дзе спачыла любоў,
прасочыцца Божае слова,
тады сапраўды пазбіраемся зноў
на Светлае Свята Хрыстова.

## Край

Край, які я маю,
не заснуў, а дрэмле.
З ім уваскрасаю
у вяночку, ў дрэве.
Над жывой зямліцай
чыста неба стрэшка...
Зорка-зараніца,
хлопчыкава ўсмешка.

## Замалёвачка

Гэты горад быў свой і ніякі.
Ведаў праўду і бачыў хлусню.
Шантрапу падкупілі "палякі",
пазбіралі сваю вескаўню.

Забіваць з-за вугла будуць доўга
і нацкоўваць галодных сабак.
Выйдзе горад на пляцы натоўпам
балабоніць пра ўсе і ўсяляк.

Прападзе, хто валяўся пад плотам,
хто набраўся, як яма пяску.
А заселіцца горад народам,
пацалуе Дануце руку.

---

Словы ж?
Словы вернуцца зноў!

Хтосьці зможа
Прачытаць на згарэлых,
на шызых старонках
Тыя словы,
Што кроўю чырвонай
зрок апякуць!

●

Адчуць эмоцыяй
недастатковасць метафары.
Адчуць пальцамі
кроплі расы на кветцы.
Пераставіць словы мейсцамі.
Назваць гэта — творчасць.

Разамлелы рытм
няўлоўным бегам крыві да скроняў
Ад каранёў.

І не дагнаць бессаромную думку,
Якая кладзецца на рытм
Лёгкі, няўлоўны, няроўны.

Адчуць пальцамі
недастатковасць метафары.
Адчуць эмоцыяй
кроплі расы на кветцы.
Даведацца
пра свой самотны світанак.
Зблытаць вечар
з цыгарэтным дымам.
Паляцець за рытмам
у адчуванне.

ПРОЗА

Васіль ТКАЧОЎ



# СЛЯПЫ І ВІДУШЧЫ

АПАВЯДАННЕ

Футарал для гармоніка шыў сам Якут. З меха. Нічога больш вартага пад руку не падвярнулася, а час не трываў: хопіць, паклявалі носам на лаўцы, склаўшы рукі, пара і грошы зарабляць. не змылкі. Тым больш, сітуацыя такая: кожны, хто хоць трохі варухнецца, глядзіш, і нешта мае. У кішэні.

— Так што, Мітрафан, рыхтуйся! — паляпаў па плячы значна старэйшага і яшчэ больш няшчаснага за сябе земляка п'яніца і абібок Якут, які прывёз з далёкай поўначы не капітал, а мянушку. — Ты сляпы — табе і карты, як гавораць, у рукі. Будзем зарабляць. Грошы! Заўтра першым аўтобусам у горад, Рыхцер. Каля базару, дзе самая таўкатня, я цябе і пасаджу, а шапку, як і належыць... Ёсць шапка? Аблавушка? Самая зацёртая? Яшчэ лепш, каб яе мышы патачылі.

— Знайду, — пакорліва ківаў Мітрафан, а потым зноў нацэльваў свае невідушчыя вочы міма Якута і, здаецца, міма жыцця.

— Памагу знайсці, — абяцаў Якут. — Памагу. Для такой справы і новую можна шапку знявечыць, пажаваць, пагрызці... Як у цiятры. Сам жа буду я воддаль стаяць, пільнаваць, каб хто цябе не аб'ягорыў... не змахнуў, бы карова языком, набытак. Худа-бедна, а выпіць за што будзе. Нашкрабём. Не можа быць, каб не накідалі. Дурняў на наш век хопіць. Гэта я не гучна гавару? Не падслухае мяне якая падла? — Якут павярцеў галавой па баках, лахматай, абыякавай, падобнай на пук даўняга лёну, які недзе валяўся на гарышчы да лепшага часу. — На твае вочы, Мітрафан, глянеш — і сам кінуў бы ў шапку, каб было што. Прабач, няма. Але будуць, будуць дзяржзнакі, па нырках ім!.. Футарал, хоць і не скураны, з мехавіны, але гармонік з яго не вылузнецца. Крэпкі. Гузік вось... Шкада, ты не бачыш... Прыгожы гузік. І вялікі. Як стары куфар. З выкрутасамі. З матчынага паліто зняў і па цэнтры футарала прышпандорыў. Зашпільваецца. Давай, давай руку... Памацай. Як, га? Спадабаўся гузік? А матузы, ці рамяні, каб за спіной вісела музыка не боўталася, а то і растрэсціся можа, чаго добрага, з цяг калгасных сфурычыў... Ад збруі. Падцяжкі, ці як іх... Хочаш памацаць?

— Бабу каб — памацаў бы, — тонка фыркнуў Мітрафан, пракаўтнуў сліну і забоўтаў босай, парэпанай нагой. — Ты, Якут, павінен табе сказаць, багата гаворыш. Менш гавары. Я што, дрэва, што мяне трэба стругаць і стругаць? Дык не ж!..

Якут вытрымаў незапланаваную паўзу:

— Ды ты, кораш, не хвалюйся: я цябе, як важную птушку, буду за руку весці, і гармонік панясу, толькі перад самым канцом, каля дрэва, на цябе надзену... Каб не здагадаліся, што на пару працуем. Так больш гарантыі. Канспірацыя.

Мітрафан, крыху здрыгануўшыся, прашаптаў:

— Мне каб, як на фронце перад боем, сваю законную парцуху — для храбрасці, га? Сотку каб. Калоціць.

— Ну ты даеш! Ну ты!.. На білет хоць бы нашкрэбсці. Табе добра — бясплатна, а я галяк — без аніводнага зайца ў кішэні. Пайду прасіць... Клянчыць пайду... Хоць, адчуваю, ніхто не адшпіліць. Рызыкну. Няхай яшчэ раз плюнуць мне ў морду. А што рабіць? Іншага выйсця няма. Бо заробім, створым свой фонд... І табе будзем пакідаць на раніцу кроплю якую.

— Ты пакінеш, — прабурчэў Мітрафан, спакваля ўзняўся, намацаў слясак на браме, і па ягоным голасе, і па руках няцяжка было вызначыць, што сляпы музыкант не надта мкне ў той горад з крыху авантурнай і дзікаватай для яго місіяй.

— Дык я роўна ў шэсць буду! — дыхнуў з-за спіны на Мітрафана Якут. — Разбуджу. Глядзі ж!..

Мітрафан кінуў на ганак футарал, сеў. Якута чуваць не было, і ён адчуў сябе надзвычай лёгка, шчасліва, бы толькі што адагнаў назойлівага камара, які, паразіт, усё прагнуў напіцца ягонай крыві. А для сябе, хоць і няпроста было, рашыў: добра, з'езджу ў той горад, пагляджу, што атрымаецца. Мо і праўда ёсць магчымасць зарабіць капейчыну якую? Грошы трэба. Не сакрэт. На хлеб не хапае, не кажучы, што і выпіць карціць, іншы раз моцна: тады быццам хоць крышку зрок вяртаецца. Толькі палохала Мітрафана, што Якут, валацуга, абдурыць яго, калі што і будзе ў той шапцы, то выграбе са смеццем. "Не дам!" — цвёрда рашыў сляпы гарманіст і намацаў футарал, рушыў з ім у хату.

Раніцай Якут выканаў абяцанку.

— Гатоў, Рыхцер? — вырачыў ён вочы на шыбку, за якой стараўся разгледзець Мітрафана.

Убачыўшы, што той ужо апрануты і сядзіць на ўслоне, уроссып паклаўшы пальцы правай рукі на гармонік, нырнуў у дзверы, падхапіў Мітрафана за рукаў:

— Давай, братка, давай. Галоўнае, не хвалявацца, галоўнае — першы крок... Ён заўсёды цяжкі, зараза, але без яго, першага кроку, не бывае другога, трэцяга... сотага! Ну, шавяліся, шавяліся, Мітруха. Нас чакаюць грандыёзныя справы! Тут наша Цюмень! Тут наша Якуція! Па алмазах ходзім, ядрона шыш!..

У аўтобус уцiснуліся лёгка — ехала ў горад не дужа каб багата вяскоўцаў. Мітрафан з гармонікам сеў адразу ж за дзверцамі, каля матора, а Якут, пакуль уладкоўваў яго, застаўся без плацкарты: цопнулася побач, не павёўшы і брывом, Верка Канапелька, а больш і месцаў вольных не мелася. Ну і добра. Не пан, пастаіць. Тым больш — без грошай едзе. Пачаргова лыпаючы вачыма на Мітрафана, на гармонік, што прыкіпеў да ягоных каленяў, на землякоў, сонных, як леташнія мухі, якія, адчуваў, пачыналі здагадвацца, куды гэта яны з гармонікам намыліліся. Бач, відушчы сляпога цягне, як рак здабычу пад корч. Не проста ж так Верка Канапелька, хаваючы здзеклівую ўсмешку ў рукаў, крэкнула-пырснула:

— Вы ніяк у горад, Мітрафан з Якутам, вяселле граць? У рэстаран, га?

Калі гамана ўнялася, Якут сказаў пераканаўча і горда:

— Хопіць нішчымную бульбу трэскаць! І каўбасы хочацца!

— Дык і мяне з сабой вызьміце, — сумелася жанчына.

— Без касіра абыдземся, — ціха мовіў Якут. — Баба на караблі — кепская прыкмета. Сядзі і не рыпайся.

Месца Мітрафану Якут прызначыў пад высокім і тоўстым, як абхапіць, ясакарам. Добрае месца: людное і зацененае. Шапка ляжала перад самым гармонікам, а Якут трымаўся крыху паводдаль, каб не мазоліць вачэй, і крадком сачыў, як уздзейнічае музыка на прахожых. Уздзейнічае. Палоніць. Апускаюць, апускаюць у шапку пакамечаныя дзяржзнакі. Значыць, парадак. Якут, нібы між іншым, прайшоўся каля Мітрафана, крадком зазірнуў у шапку: дробязь пакуль там, але ж і Масква не адразу будавалася. Вылучыўшы момант, ён шапнуў Мітрафану:

— Рэж, рэж з такім жа азартам. Выціскай слязу. Ёсць капуста. Цвіце. У качан прасуецца.

І пашоргаў далей, падкрэсліваючы ўсім сваім выглядам, што ён з гэтым няшчасным сляпым музыкам незнаёмы.

Пакуль Мітрафан з нейкім мужчынам вітаўся за руку, колькі часу размаўляў з ім, то музыка, вядома ж, маўчала. Тады Якут нерваваўся, паказваў Мітрафану кулак, які трымаў у кішэні: калупаць, калупаць капейчыну, а не анцімонію разводзіць!.. А калі Мітрафан пачынаў рыпаць, твар у Якута лагодзіўся: вось так і давай, невук, і толькі яшчэ больш энергічна, энергічна! Не пашкодзіць.

Дзень неўзабаве схіліўся на другую палову. З шапкі выпіраліся, бы сухое лісце, грошы. "Пара канчаць!" — прыняў рашэнне Якут і падаў голас каля Мітрафана.

— Грошы я сабе пакладу, — затрымаў пальцы на гузіках гамоніка музыка. — А тады разбяромся. Адыдзем толькі, не тут жа... Не на рабочым жа месцы.

Якут палагаднеў, дружалюбна фыркнуў:

— Не бойся ты, не абдуру. Нам жа з табой работаць. Што я, казлом буду? Ды мне ў Якуціі алмазы давяралі!

Дашоргалі да лаўкі, што дымілася на санцапёку каля аўтавакзала. Селі. Падлічылі навар: атрымалася, што можна добра выпіць і закусіць. І трошкі яшчэ адкласці можна — на кансерву-другую Мітрафану, а, таго ж, і на білет Якуту. Якут шчэрыў зубы, распрамляючы на сваім калене грошы, соп і пляваўся:

— Я ж казаў, га? Мы, значыць, з табой пляшку раздавім, закусім і паедзем у свае Абакумы — як пераможцы, як салдаты-вызваліцелі. Горда паедзем, ядрона шыш, а не як галодныя ваўкі...

Па пляшку пабег Якут, вядома ж. Купіў на "пятаку" ў прыватных гандляроў, а Мітрафану сказаў, што браў у краме: сэканоміў сабе, такім чынам, колькі тысяч. Спатрэбяцца. Хто на грашах, разважаў, сядзіць, той і адшчыкне сабе. Абавязкова.

Выпілі. Закусілі яблыкам, бо да закусі Якут не прыцаніўся: усё дорага, не для простага люду. Выпіць танней. Не псаваць жа грошы, не пераводзіць жа? Пасядзелі.

— Добра ты сёння іграў, — сказаў, пыхкаючы дымком, Якут. — Я, нашто ў мяне на поўначы слёзы павымярзалі, і то заплакаў. Асабліва пра вайну калі йграў... Пра зямлянку... Шчымела душа... Можа, Мітрафан, для мяне ўрэжаш, спецыяльна? Прымі заяўку.

— Пальцы баляць. Даўно так багата не йграў, — не пагадзіўся Мітрафан.

Якут асабліва не настойваў, толькі ківаў лахматай галавой, і здавалася, на тратуар асыпаўся з валасоў пыл:

— Разумею. І хвалю. Беражы, беражы пальцы, дзядзька. Тваімі пальцамі мы яшчэ доўга будзем калупаць капейкі. Ды што капейкі? Тысячы! Хоць нам багата і не трэба. Праўда? Выпіць, з'есці чаго... Шкарпэткі во табе купіць трэба. Ці не? Калі нага голая, то, відаць, хутчэй кінуць у шапку?

— Багата не трэба... нам, — роздумна выдыхнуў Мітрафан.

Праз колькі імгненняў Якут зноў папрасіў:

— А, можа, сыграеш? Для мяне? Калі яшчэ будзе?

— А... а ў цябе грошы ёсць? — сур'ёзна паглядзеў невідушчымі вачыма на Якута Мітрафан. — Без грошай я больш цяпер не йграю. Я хоць і не бачу іх, але, адчуваю іх пах. Добра пахнуць, добра!..

Якут папярхнуўся. Мітрафан гаварыў далей, пагладжваючы гармонік:

— А за футарал і за тое, што падказаў, як можна зарабляць, табе вялікі дзякуй. Далей я ўжо сам. Як-небудзь. Я, хоць і сляпы, але дарогу да кавалка хлеба, здаецца, сам бачу. Ды і завядзеш ты мяне, адчуваю, старога чалавека, не туды, куды трэба... Не заўсёды трэба відушчага трымацца. Не заўсёды...

Якут зароў, як мядзведзь, сціснуў да болю кулакі, нацэліўся імі на Мітрафана, але спагнаў злосць на дрэве, да якога прыпёрлася спіной лаўка, заенчыў ад болю і пачаў смактаць салодкую кроў на ўшчэнт разбітай правай руцэ. І сварыўся на Мітрафана:

— Маць тваю!.. Дык што, выцер мной ногі, падла? І ты такі, як усе? Як Якуція? Як поўнач? Дык калі ж я ўжо за сваё магу атрымаць, што мне паложана-а-а?! За маю галаву... За ідзею.. А ідзеі цяпер, на вагу золата... Ведаеш, колькі мне трэба адваліць? Маўчыш, гад, здраднік, сволач? Ды ты год будзеш іграць толькі на мяне! Я цябе прымушу!

— Год я, Якут, не пражыву, мусіць, — спакойна мовіў Мітрафан. — Хопіць маю музыку ўжо слухаць людзям, хопіць...

Мітрафан згроб гармонік, ускінуў яго на плячо, і, намацваючы дарогу кіёчкам, ціхенька пашоргаў у бок шумлівага аўтавакзала. Якут пэўны час стаяў каля лаўкі і парожняй пляшкі з недагрызеным яблыкам, ногі не слухаліся яго: ён не ведаў, што яму рабіць — даганяць сляпога музыку ці, можа, ужо не трэба. Але пабег...

ЛіМ ЧАСАПІС

## Клас віяланчэлі



Паспяхова выступілі выхаванцы Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі на юнацкім конкурсе імя П. І. Чайкоўскага. 12-гадовы Аляксей Кісялёў атрымаў званне лаўрэата, III прэмію і ўзнагароджаны бронзавым медалём, яго равеснік Георгій Анішчанка ўдастоены спецыяльнага прыза за лепшае выкананне віртуознага твора. Лепшым педагогам, які падрыхтаваў вучняў да гэтага музычнага спаборніцтва, прызнаны Уладзімір Перлін.

— У гэтым самым прэстыжным юнацкім конкурсе ўдзельнічалі лепшыя юныя музыканты свету, — расказвае Уладзімір Паўлавіч. — Яму папярэднічаў вялікі адборачны тур. Упершыню ў ім удзельнічалі прадстаўнікі Беларусі. Гэта тры выдатныя вучні майго класа — Алёша Кісялёў, Георгій Анішчанка, і самы юны, адзінаццацігадовы Валодзя Сінькевіч. Паводле ўмоў, удзельнікам конкурсу на момант яго адкрыцця не павінна было быць больш як 16 гадоў. Вялікі гонар удзельнічаць у такім прэстыжным конкурсе, у журы якога ўваходзілі лаўрэаты Міжнароднага конкурсу імя П. І. Чайкоўскага, а ўзначальвала — знакамітая Наталля Шахаўская.

Сын скрыпача Алёша Кісялёў пачаў займацца ва Уладзіміра Паўлавіча ў пяць з паловай гадоў. Бацька невыпадкова выбраў менавіта віяланчэль, бо, на ягоную думку, гэтую спецыяльнасць у ліцэі выкладае вельмі таленавіты музыкант, знаны педагог. І Алёша захапіўся сваёй будучай спецыяльнасцю. Пакуль што ён грае на палавінцы віяланчэлі. Але ўжо зараз хлопчыка называюць музыкантам з недзіцячай душой, бо ўсяго сябе ён аддае віяланчэлі.

Канцэртмайстар Алёшы студэнтка IV курса акадэміі Алена Зыль, якая ўжо год працуе з ім і акампанавала хлопчыку на конкурсе, лічыць, што Аляксей Кісялёў вельмі мэтанакіраваны музыкант, з вялікай сілай волі, жаданнем выступіць як мага лепш. Ён заўсёды сабой незадаволены, што немалаважна для музыканта. А калі нешта не атрымоўваецца, шмат працуе і стараецца пераадолець цяжкасці. Ён творыць на сцэне, робіць, што падказвае інтуіцыя, настрой слухачоў — быццам бы яму падказвае Бог. І гэта нягледзячы на невысокую якасць "дзіцячага" інструмента. У ягоных сапернікаў віяланчэлі былі класныя, коштам паўмільёна долараў. На Беларусі ж няма калекцыі інструментаў таленавітых майстроў мінулага... На трэцім туры юны віяланчэліст выконваў Канцэрт Луіджы Бакерыні з аркестрам. Складанасць была і ў тым, што на рэпетыцыю гэтага трохчастковага твора адводзілася толькі паўгадзіны.

Аўдыторыя палюбіла гэтага невысокага хударлявага хлопчыка. Яму прадказвалі другое месца. Але і трэцяя прэмія — вялікі поспех. Бо на трэці тур прайшлі прадстаўнікі Паўднёвай Карэі, Беларусі ды Расіі. Карэйскі хлопчык нават нарадзіўся з Алёшам у адзін дзень і год — 11 лютага 1985 года і вельмі быў блізкі яму па выкананні. Гэты віяланчэліст стаў пераможцам.

Кожны ўдзельнік конкурсу, незалежна ад вынікаў спаборніцтва атрымаў шмат карыснага, павучальнага. Алёша Кісялёў лічыць, што ён навучыўся вытрымцы, а таксама сцэнічнай разняволенасці. Ён марыць у будучым стварыць свой аркестр, дырыжыраваць ім і выступаць яго салістам. А пакуль трэба апраўдаць высокае званне лаўрэата, шмат вучыцца.

Юным віяланчэлістам дапамагае таленавіты педагог Уладзімір Паўлавіч Перлін, які заўзята працуе індывідуальна з кожным сваім вучнем, чытае ім вершы сваіх любімых паэтаў, стараецца ўзбагаціць духоўна. Разам слухаюць пласцінкі з запісамі выдатных інструменталістаў, спевакоў, славутых музычных калектываў. Што тут казаць: ён і сам — выдатны віяланчэліст, якому ўдзячныя ўжо многія таленавітыя музыканты.

**Вера КРОЗ**

*На здымку: Георгій Анішчанка, з. а. Беларусі Уладзімір Перлін, Аляксей Кісялёў, Уладзімір Сінькевіч.*

***Гутарка з рэжысёрам Галінай КРАЎЧАНКАЙ мелася на ўвазе даўно, бо вынікала натуральным працягам яе тэлевізійных праграм — "Тэатральная гасцёўня", "У святле рампы", "Спадчына", шэрагу спектакляў тэлевізійнага тэатра. Сустрэча з рэжысёрам рабілася тым больш неабходнай, што час сплываў, — адыходзіла часіна, за якой яна з БТ... пайшла, не прыняўшы новых умоў тэлевізійнай вытворчасці для сваіх творчых дамаганняў. Вольга Іпатава, вядучая "Спадчыны", сцэнарыст шэрагу праграм ды фільмаў, вядомая пісьменніца, заўважыла, маўляў, чым далей, тым больш яна цэніць Краўчанку-рэжысёра, зразумеўшы прафесійнасць, высакародную прыстойнасць, душэўную далікатнасць, адказнасць, акуратнасць у абыходжанні з матэрыялам, густ, пастановачныя ідэі...***

ца. На благія й добрыя. Мне няёмка казаць, што раней на БТ было лепш, — творча, лёгка ў рабоце, — было па-рознаму.

**— А вы не шукайце знарочыстых або штучных "лепш" — што было, тое было...**

— Іншая рэч: чаму цяпер не лепш? Я прыйшла на тэлебачанне ў 1966-67, такая маладая, што цягнула рабіць нешта... маладое, маладзёжнае, балазе, нават рэдакцыя такая была, а працавала ўвесь час у рэдакцыі літдрамы. Самая сур'ёзная тэатральная работа — "Чужое неба" Барыса Сачанкі. Значна

# Помнікі часу, якога проста няма

**— Галіна Анатольеўна, колісь ваш калега Віктар Акімушкін прызнаўся, што глядзіць у мінулае тэлебачання і зайздросціць сам сабе, творчаму імпэту, аб'ёму колішняй работы... Ваша калежанка Наталля Арцімовіч са скрухай паведаміла, што на тэлебачанні ўсё менш мастацкасці, знік, занепаў тэлевізійны тэатр...**

— Настальгічныя ноты ўласцівыя нам усім. Асабліва як толькі мовім: тэатр! У маім уяўленні тэатр — гэта месца, дзе ўсё падначалена рэпетыцыям і спектаклям. Наша тэлебачанне ніколі не было такім месцам. Яно ніколі не было падрыхтаваным для стварэння спектакля ў студыі і паказу на экране. Колькі працавала на БТ, столькі пэўна ведала: мы не можам рабіць спектаклі. Для іх няма ні магчымасцяў, ні сродкаў. Але, няма! Ды, здаецца, ніхто і нідзе не рабіў іх больш, як на нашай студыі... Нават у Маскве дзвац-цаць гадоў таму не з'яўлялася столькі адметных тэатральных работ на экране. Я прыйшла на тэлебачанне, калі Карпілаў, Гуткові Станкевіч былі маладымі. Пачынала з Яўгенам Шабаном, была ягоным асістэнтам. Неблагім, мабыць, асістэнтам (Таццяна Арлова, жонка Шабана, жартавала неяк: маўляў, вы, Галіна, галоўная жанчына ягонага жыцця). Шабан — мая адметная школа! Гэта пасля гадоў працы ён падпісваў мне свае кніжкі з пажаданнем "не перакінуцца да лавеласа Гутковіча"... Шабана згадваю не часта. Як любога рэжысёра, які не пакінуў шмат вучняў. Калі Жэня памёр, рабіла перадачу "Я хачу вясны зялёнай", — яе выдатна правёў Георгій Колас, чалавек-тэатр (з ім творча сябравала ўсё жыццё). І тады ўжо свідравала думка пра нейкія вынікі... Вынікі нашай тэлевізійнай дзейнасці... творчасці... занятасці, назавём гэта так, надта розняцпазней — яго ж "Ваўчыца з Чортавай ямы". Ад спектакля да спектакля рабіліся першыя і грунтоўныя прафесійныя высновы: можна рабіць спектаклі паводле законаў сцэны і пераносіць іх на экран: так да сёння робіцца ў бальшыні выпадкаў. А навошта? Не маючы базы, мы намагаліся ставіць самі ўжо патэлевізійнаму. Магчымасці тэлебачання — неаспрэчныя. Для мяне ж яно як той Ноеў каўчэг: хто гаспадар, такія й стварэнні... Па пары. Мы любілі ставіць спектаклі. Гуткові або Карпілаў практычна нічога, акрамя спектакляў, не рабілі; менавіта спектаклі былі нашым гонарам, нашым рэдакцыйным сцягам, сутнасцю, вяршыняй нашай работы. Мы ўсе раўняліся на Карпілава, у простым сэнсе — усе вучні галоўнага рэжысёра нашай рэдакцыі. Ён існаваў як... факт, як сутнасць. Першая тэлевізійная опера Г. Вагнера "Ранак": я працавала на ёй з Карпілавым як

МУЗЫКА

# Цымбалы, домры і дуда...

***Падчас мінскага фестывалю народнай творчасці "Сузор'е-97" адбылося свята народна-інструментальнай музыкі, якое адначасова сталася конкурсам для аркестравых калектываў на пацвярджэнне ганаровага наймення "народны" і "ўзорны".***

Гэта быў ужо адзінаццаты конкурс. З перыядычнасцю ў тры гады ён разгортвае перад спецыялістамі і прыхільнікамі народна-інструментальнага жанру ўсю панараму сучаснага стану аркестраў і ансамбляў, высвечвае асноўныя кірункі іх развіцця, акрэслівае галоўныя праблемы. Конкурс выяўляе таксама ступень цікавасці да аркестравага выканальніцтва ў моладзі — а гэта ж адзіны паказчык жыццядзольнасці жанру.

Сёлета было 12 калектываў-конкурсантаў, з іх шэсць дзіцячых. Паранальна з мінулымі конкурсамі выявілася адразу, што сёння ў інструментальным складзе калектываў заўважна дамінуюць беларуская народныя інструменты. Рускі склад быў прадстаўлены двума студэнцкімі аркестрамі і адным дзіцячым.

Аркестр Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка прыемна "шматлюдны": у ім каля 80 удзельнікаў. Прычым ён адметны чысцінёй ладу, добрай ансамблевасцю. Нягледзячы на пастаянную змяняльнасць удзельнікаў, што непазбежна ў студэнцкай самадзейнасці, тут захоўваецца добры ўзровень выканаўчага майстэрства. Мастацкі кіраўнік Уладзімір Перацяька, які, дарэчы, кіруе гэтым аркестрам ужо больш за 40 гадоў, шмат увагі надае мастацкай адпрацаванасці кожнага твора, развіццю агульнай і музычнай культуры студэнтаў. Што ж да рэпертуару, тут праблемы ёсць. І найпершая — вельмі нязначнае яго абнаўленне. На працягу многіх гадоў тут іграюць музычныя ілюстрацыі Г. Свірыдава да аповесці А. Пушкіна "Мяцеліца", вальс "Амурскія хвалі", "Карабейнікаў" Дзітэля ды "Беларускую польку" К. Паплаўскага. Вядома, творы гэтыя сталі ўжо народна-інструментальнай класікай, але ж колькі змянілася ў жанры з далёкіх часоў іх з'яўлення ў канцэртных праграмах!

Сёння падыход да гучання народна-аркестравай партытуры, кампазітарскае мысленне творцаў, погляды і падыходы тых, хто стварае інструментоўкі ды апрацоўкі для аркестраў, зусім іншыя, чым у 50—60 гады. І ўдзельнікі аркестра, тым больш, калі гэта моладзь, не павінны адмяжоўвацца ад сучаснага рэпертуару густамі і мастацкімі прыхільнасцямі свайго кіраўніка.

Парадокс у тым, што аркестр народных інструментаў (домрава-балалаечны) — менавіта той склад, для якога створана велізарная колькасць літаратуры, надзвычай разнастайнай, цікавай па музычнай мове і вобразным змесце, даступнай, бо шмат што выдадзена! Рускі народны аркестр — практычна адзіны, які не адчувае партытурнага "голаду", як, напрыклад, наш цымбальны, і тым больш — фальклорны. Аднак рэпертуар аркестраў, прадстаўлены на конкурсе, быў занадта ўжо традыцыйны. Гэта, дарэчы, датычыцца і выступлення аркестра Політэхнічнай акадэміі. Праўда, пазітыўным тут было даволі шырокае прадстаўленне твораў беларускіх аўтараў, сярод якіх Ю. Семяняка, Я. Глебаў, Д. Камінскі, У. Алоўнікаў (удалая праца мастацкага кіраўніка Рамуальда Пармона).

Значна ўпрыгожыла конкурсныя праграмы абодвух аркестраў выступленне салістаў-спевакоў.

Трэцім студэнцкім калектывам-конкурсантам быў аркестр Беларускага дзяржаўнага універсітэта (мастацкі кіраўнік Алег Шапялевіч). Ён мае доўгую і добрую творчую біяграфію, атрымаў званне "народнага" адным з першых у рэспубліцы. Яго даволі нетрадыцыйны склад спалучае цымбалы (як асноўны інструмент) з акампануючай групай (домры ды балалайкі). Гэта надае своеасаблівасць партытурам і, адпаведна, гучанню. І моцна дадае працы кіраўніку, вымушаному адаптаваць партытуры традыцыйных складаў для свайго. Тым не менш, усе творы гучаць прафесійна, цікава па тэмбравых спалучэннях, з фактурнай шчыльнасцю.

Праўда, у выкананні твораў з віртуозным пачаткам часта не хапае майстэрства ў валоданні інструментамі, але ж іграюць тут у асноўным студэнты БДУ, у якіх не вялікая музычная адукацыя. Ёсць у іх падтрымка — студэнты Беларускага універсітэта культуры і Мінскага музычнага вучылішча, якія праходзяць тут пастаянную практыку. Так што калектыў цікавы, працаздольны, з адметным абліччам. У рэпертуары шмат класікі. І салісты цікавыя. Журы адзначыла іх асобна, а як лідэра вылучыла прафесара БДУ Алега Ціханенку, спевака з вельмі прыгожым па тэмбры голасам. Шкада толькі, што традыцыйным тут з'яўляецца значны дэфіцыт музыкі беларускай.

●

У конкурсе ўдзельнічалі ўзорныя дзіцячыя калектывы. Яны базуюцца пры сярэдніх школах сталіцы, якія маюць музычны ўхіл. Тут дзеці займаюцца індывідуальнай падрыхтоўкай на музычным інструменце (класы цымбалаў, баяна, балалайкі ды інш.). Таму выканальніцкі ўзровень аркестраў даволі высокі. А яшчэ сённяшнія дзіцячыя аркестры — гэта сведчанне захопленасці сур'ёзнай музыкай, знак агульнай музычнай ды і нават знешняй культуры. Гэта і самаадданая калектыўная праца. Калі ўсё гэта ёсць — ёсць і творчы калектыў.

Надзвычай добрае ўражанне выклікаў узорны аркестр СШ N 13 (мастацкі кіраўнік Віктар Тулвінскі). Вялікі па колькасці цымбальны калектыў здаецца адзіным арганізмам — гэтак чуйна ён адгукаўся на кожны жэст свайго дырыжора. Багатая конкурсная праграма, у якой была і цымбальная класіка, і сучасная музыка, вабіла адпрацаванасцю, багаццем адценняў. Прадуманая рэжысура праграмы, вершаваныя звязкі па-між нумарамі ў натхнёным выкананні дзвюх абаяльных дзяўчынак-вядучых дапаўнялі ўражанне творчай цэласнасці выступлення. Аздобілі яго і салісты. Аркестр сустрэў сваё 10-годдзе з цудоўнымі творчымі вынікамі, вызначыўшыся як перспектыўны калектыў, які шмат робіць для эстэтычнага выхавання дзяцей, для прапаганды беларускай музыкі.

Дзіцячыя аркестры вылучаліся шырокім дыяпазонам інструментальнага складу, што гаворыць пра пошук іхніх кіраўнікоў у гэтым кірунку. Напрыклад, устойлівым канонам не адлюстроўвае аркестр СШ N 66, бо тут ёсць і домры, і цымбалы, і раяль, і ўдарная ўстаноўка, і басовая гітара, і шмат чаго "нетрадыцыйнага". Але ў добрым спалучэнні, у збалансаванасці гучання падаваліся і творы класікі, і вакальны акампанемент, і беларуская музыка. Дарэчы, журы асобна адзначыла сталую ўвагу ў гэтым калектыве да нацыянальнай музыкі, як народнай, так і аўтарскай. Менавіта беларускія творы складаюць аснову рэпертуару, яны вучаць дзяцей разуменню асаблівасцяў нацыянальнай музычнай інтанацыі, знаёмяць з кампазітарскай творчасцю. Наогул, у аркестры выхоўваюцца нацыянальна свядомыя грамадзяне, і ў гэтым вялікая заслуга ягонага кіраўніка Таццяны Трусавай.

Аркестр СШ N 102 (мастацкі кіраўнік Тамара Жураўская, дырыжор Леанід Краўцоў) мае ў аснове домрава-балалаечны склад. У ім іграе больш за 40 дзяцей, і што асабліва ўразіла, многія з іх — салісты. Прычым мастацкі ўзровень даволі высокі, кожны з іх — асоба творчая. Можна адзначыць і Дашу Азончык, і Кацю Мядзвецкую,

## У імклівай плыні жыцця

ЯЎГЕНУ РАДКЕВІЧУ — 60

**Перш чым стаць пісьменнікам, Яўген Радкевіч прайшоў нямала жыццёвых дарог. Нарадзіўся ў Сянне Віцебскай вобласці. У 1955 годзе паехаў у Казахстан, дзе скончыў Усць-Каменагорскае вучылішча сельскай гаспадаркі. Працаваў трактарыстам, камбайнерам у саўгасах Паўладарскай вобласці. У 1958 годзе вярнуўся на радзіму, стаў піянерважатым дзіцячага дома N 2 у пасёлку Парэчча Гродзенскай вобласці, паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, якое скончыў у 1963 годзе. Адначасова з 1960 года працаваў рэдактарам на рэспубліканскім радыё. Пазней стаў загадчыкам маладзёжнай рэдакцыі. У 1971 годзе паступіў у аспірантуру, пасля заканчэння яе выкладаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце, а ў 1978 годзе пачаў загадваць кафедрай тэлебачання і радыёвяшчання.**

**З першымі творамі Я. Радкевіч выступіў у 1966 годзе. Аўтар кнігі апавяданняў і аповесцяў "Плытагоны" (1972), "Месяц межань. Зіма на выратавальнай" (1976), "Горны мёд" (1982), аповесцяў "Антаніна" (1979), "Пешшу праз Галактыку" (1984), раманаў "Сутокі дзён" (1984), "Закон прыцягнення" (1990). З'яўляецца аўтарам кнігі публіцыстыкі "Камсамольская дынастыя" (1968), даследаванняў "Маладзёжная радыёпраграма: станаўленне, функцыі, форма" (1979), "Беларускае радыё: гісторыя, перспектывы развіцця". Доктар філалагічных навук.**

**З 60-годдзем, шаноўны Яўген Рыгоравіч! Доўгіх вам год жыцця, здзяйснення ўсіх планаў!**

## Старадаўняя геральдыка Беларусі



**У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстава "Старадаўняя геральдыка Беларусі". Развіццё геральдыкі звязана з культурай рыцарскіх турніраў, калі ўзнікла неабходнасць адрозніваць сапернікаў. З часам герб стаў неад'емнай часткай гісторыі роду многіх знакамітых сямействаў. Беларусь далучылася да еўрапейскай геральдычнай традыцыі ў XIV—XV стагоддзях. З часоў сярэднявечча гербы мелі і гарады, якія атрымалі "магдэбургскае права" — права самастойнага кіравання. Каля сямідзесяці гарадоў і мястэчак Беларусі ў XV—XVIII стагоддзях мелі свае гербы. Карысталіся гербамі дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, манастыры, суддзі, навучальныя ўстановы, прафесійныя аб'яднанні.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

## 15 разоў мяняла назву

**З 1 кастрычніка па 16 снежня 1928 года ў Вільні выходзіла газета рэвалюцыйна-дэмакратычнага накірунку "Да працы", перыядычнасць якой была два разы на тыдзень. З-за сваёй арыенціроўкі яна часта трапляла ў няміласць польскіх улад, таму 15 разоў мяняла назву. Была і "Нашай працай", і "Працай", "Навагодняй працай" і "Думкай працы", прыходзіла да чытача і пад назвай "Красавік"... Ды нязменна пісала пра цяжкае сацыяльна-эканамічнае становішча працоўных Заходняй Беларусі, выступала за нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне беларусаў. У газеце друкаваліся вершы М. Васілька, Х. Ільяшэвіча, А. Салагуба, В. Таўлая і іншых аўтараў, з'яўляліся ў перакладзе на беларускую мову асобныя творы У. Караленкі. Выйшла 120 нумароў. Выданне газеты было спынена польскімі уладамі.**

ВІНШУЕМ!

# Народжаны ў Дзень музыкі

### АНДРЭЮ МДЗІВАНІ — ЗАСЛУЖАНАМУ ДЗЕЯЧУ МАСТАЦТВАЎ, ЛАЎРЭАТУ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ БЕЛАРУСІ, ПРАФЕСАРУ — СПОЎНІЛАСЯ 60

Ён быў ужо сталым чалавекам і вядомым кампазітарам, калі воляю ЮНЕСКА ў календары з'явілася новае свята — Міжнародны дзень музыкі. Гэтае свята пачалі адзначаць штогод 1 кастрычніка. Увайшло ў традыцыю прымяркоўваць да яго адкрыццё чарговага філарманічнага сезона ў Мінску і часцяком — прэм'еры твораў беларускіх кампазітараў. І мала хто з шаноўнай публікі ведаў, калі ў якасці аўтара такой прэм'еры выпадала выклікаць на паклон Андрэя Мдзівані, што сваімі апладысментамі слухачы ўшаноўвалі імянінніка.

Сёлета пра гэта ведаюць усе. Бо яшчэ напярэдадні адкрыцця сезона Беларускай дзяржаўнай філармоніі, якой спаўняецца шэсцьдзесят, было афіцыйна заўважана-абвешчана, што для кампазітара Мдзівані Міжнародны дзень музыкі — асабліва святочны і сімвалічны: ён (дарэчы, равеснік філармоніі) нарадзіўся 1 кастрычніка...

Таму і вялікі канцэрт пад кіраўніцтвам выдатнага маэстра Генадзя Праваторава, прымеркаваны да штогадовага свята музычнай грамады, ладзіўся ў гонар юбіляра таксама: у праграме была пазначана яговая сімфонія "Полацкія пісьмёны".

"Полацкія пісьмёны" — малодшая сястра папярэдняй, пятай сімфоніі "Памяць зямлі". Балет "Страсці" ("Рагнеда"). Творы, спакроўленыя глыбокай цікавасцю і любоўю аўтара да гісторыі зямлі беларускай, да вытокаў яе духоўнасці, да загадкавай сілы яе прыроды, да мудрасці яе людзей... Творы багатага шматзначнага зместу, адметныя сваёй вобразнасцю, магічнай вабнасцю, прыгажосцю музычнай мовы. Творы, адзначаныя вышэйшай афіцыйнай узнагародай — Дзяржаўнай прэміяй...

У тым, што мастак-музыкант з экзатычным нетутэйшым прозвішчам ганараваны (і ажно двойчы!) лаўрамі нашай дзяржавы, няма нічога дзіўнага. "Беларускі тбілісец" вучыўся ў звычайнай віцебскай школе. Юнаком жыў у Смаленску. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класе патрыярха айчыннай музыкі Анатоля Васільевіча Багатырова. Працаваў загадчыкам музычнай часткі славутага купалаўскага тэатра. І ўрэшце, як той казаў, зрабіў і робіць для беларускай культуры столькі, колькі не зрабілі (і не зробяць) многія крэўныя яе руплівцы.

З імем Андрэя Мдзівані звязаны самабытны пласт беларускай прафесійнай харавой культуры. Гэта і цыклы "Снапочак", "Вясельныя", "Вясёлае застолле", "Янка Купала". І канцэрт "Прымхі". І сімфоніі "Полацкія пісьмёны", "Паўночныя кветкі". І хоры на вершы рускіх паэтаў...

З імем Андрэя Мдзівані звязаны самабытны пласт народна-інструментальнай музыкі. Гэта і сімфонія "Памяць зямлі", і віртуозныя канцэртныя п'есы "Народныя гульні", "Бульба", "Крыжачок", "Лянок", "Юрачка", "На Купалле"...

З імем Андрэя Мдзівані звязаны складаныя старонкі сімфанічных партытур: "Фрэскі", "Пахаванне Хатыні", "Дыялект", "Эпітафія Стравінскаму", "Метамарфозы" ("Расініяна")...

А хтосьці згадае зараз яговыя інструментальныя канцэрты, або дасціпныя камерныя п'есы, або рамансы, або аперэту "Дзяніс Давыдаў", або мелодыі са спектакляў, фільмаў, радыёпастановак...

А камусьці прыгадаюцца яго назіральныя філасофскія і эмацыянальныя нататкі ў друку — Андрэй Мдзівані лёгка валодае пяром, у чым неаднаразова пераконваліся (трэба спадзявацца, пераканаюцца яшчэ й не раз!) і чытачы нашага тыднёвіка...

Творчасць Андрэя Мдзівані — гэта і шчаслівае партнёрства з маэстра Віктарам Роўдам, Міхалам Казінцом, Людмілай Яфімавай, Аляксеем Шутам, Генадзем Праваторавым, з майстрам тэатра балета Валянцінам Елізар'евым. З многімі, многімі іншымі таленавітымі артыстамі, выканаўцамі...

Творчасць майстра, які прыйшоў у гэты свет шэсцьдзесят гадоў таму, здавалася б, звычайным хлопчыкам; прыйшоў у дзень, здавалася б, звычайны, але чамусьці потым, з бегам часу, абвешчаны Міжнародным днём музыкі, — творчасць такога майстра, дый сама яговая асоба, нясе на сабе пячатку сакральнага. Таму гаварыць-разважаць пра яе няпроста.

Эмацыянальны і ўдумлівы, імпульсіўны і педантычны, па-хлапечы непаседлівы і па-прафесарску грунтоўны, дапытлівы, адкрыты для новага і па-рыцарску адданы традыцыям, кампазітар Андрэй Мдзівані — майстар яскравых інтэлектуальных дыялогаў не толькі ў музыцы. Але — не аматар юбілейных размоў. Таму...

З Днём Музыкі, Андрэй Юр'евіч!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: Андрэй МДЗІВАНІ са сваім Настаўнікам і старэйшым калегам, народным артыстам Беларусі прафесарам Анатолем Васільевічам БАГАТЫРОВЫМ.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

# Уніз па лесвіцы, што вядзе ўверх

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

формула крайне левых экстрэмістаў (бальшавікоў): "справядлівасць ёсць роўнасць размеркавання матэрыяльных выгод", г. зн. грабяжу і дзяльбы.

Краіна адкочвалася ў змрок мінулага. У такой крызіснай сітуацыі выратаваць народ ад страты культуры, ад распаду магла б царква. Але бальшавікі ўлічвалі гэту магчымасць, таму і абрынуліся на рэлігію з усёй жорсткасцю татальнага тэрору, уключыўшы ў яго ўвесь народ. Такога кашмару не ведала ніводная дзяржава ў свеце.

Кастрычніцкі пераварот аднавіў саслоўныя прывілеі ў яшчэ больш адкрытай і нецярпімай форме, толькі перапалюсаваўшы самі саслоўі. Дваранства, буржуазія і купецтва былі знішчаны як класы. Сяляне, загнаныя ў калгасныя рэзервацыі аказаліся парыямі, асуджанымі на падняволную працу і пазбаўленымі права свабоднага перамяшчэння на доўгія чорныя гады (ажно да канца 50-х). Саслоўная няроўнасць праявіла сябе ў гіпертрафіі ролі рабочага класа (асабліва яго люмпенскай часткі), што стала прадметам спекуляцыі партапаратчыкаў. А пра культуру зусім забылі, механічна змяшаўшы ўсе полюсы (народны і элітарны) у панцыці "савецкая культура", не вырашыўшы ніводнай з уласцівых ёй супярэчнасцей.

Да месца прыгадаць тут гісторыю Салавецкага манастыра, які яшчэ здаўна славіўся сваёй кніжнай вучонасцю. Яго закрылі ў 1920 г., а праз тры гады — 6 чэрвеня 1923 г. тут жа адкрылі Салавецкі лагер асаблівага прызначэння (СЛАП). Тых, каго зганялі сюды з усёй краіны, сустракаў лозунг: "Жалезнай рукой загонім чалавецтва ў шчасце". У такія лагеры змяшчалі для духоўнага і фізічнага знішчэння цвет нацыі (рускай, беларускай, украінскай і інш.). Так што любы універсітэт свету мог бы пазайздросціць Салаўкам па колькасці зняволеных там дзеячаў культуры. Варта толькі назваць два імені: пакаранага смерцю філосафа Паўла Флярэнскага і цудам ацалелага, цяпер жывога акадэміка Дзмітрыя Ліхачова, каб лішні раз пераканацца ў згубнай сутнасці сістэмы.

Кніга "Гісторыя іспанскай інквізіцыі" чыталася зняволенымі як гумарыстычнае апавяданне ў параўнанні з іх становішчам. А ў гэты ж час на лікбезах працоўныя чыталі па складах: "Мы — не рабы, рабы — не мы".

Салаўкі былі асабліваў астраўной дзяржавай — таталітарнай сістэмай, дзе ўдасканальваліся метады для ўсёй краіны. На іх аснове з рэвалюцыйным размахам будаваліся канцэнтрацыйныя лагеры па ўсёй краіне. У 1939 г., калі рэфармавалі Салаўкі, хворых і старых пагрузілі на баржы і патапілі ў Белым моры. Мы не можам і не маем права не помніць гэтага, каб не паўтарылася ўсё зноў. Але, у сваю чаргу, ні розумам, ні сэрцам нельга зразумець тых, хто і сёння не толькі абараняе, але зноў і зноў штурхае нас ў гэты д'ябальскі ("камуністычны") рай. Такое нельга зразумець інакш, як д'ябальскае насланнё.

Малох нацыянальна-культурнага генацыду сталінскай эпохі знішчыў сотні тысяч людзей ва ўсіх рэспубліках. Вынішчаўся цвет нацыі. На Беларусі былі рэпрэсіраваны і загінулі ў засценках многія выдатныя вучоныя і грамадска-палітычныя дзеячы. Назаву толькі найбольш вядомых: М. Гарэцкі, пісьменнік, літаратуразнавец, лексікограф; З. Жылуновіч (Цішка Гартны), пісьменнік, акадэмік; І. Замоцін, літаратуразнавец, акадэмік; У. Ігнатоўскі, прэзідэнт АН БССР, дырэктар Інстытута гісторыі...

Мы не адзінокія ў барацьбе абстрактнай ідэі з набытым нацыяй вопытам: XX стагоддзе характэрнае менавіта гэтай барацьбой. Сучасная гісторыя дала свету некалькі сістэм цэнтралізаванай сацыяльнай інжынерыі, да якіх адносяцца апартэід, фашызм і камунізм. Прыклады ўсім вядомы. Так, у фашысцкай Германіі нацыянал-сацыялістычная ідэя ў самы кароткі тэрмін ператварыла народ філосафаў і будаўнікоў у арду захопнікаў і забойцаў. Але самая злавесная з іх — сучасны бальшавізм, бо менавіта ён прынёс больш за ўсё пакут і ў першую чаргу нашым народам: дзесяткі мільёнаў загубленых і скалечаных лёсаў, усеагульнае разбэшчванне духу і заняпад культуры. Акрамя ўсяго, ён ператварыў першую краіну "сацыялізму" ў краіну найвялікага экалагічнага бедства з усімі згубнымі для людзей вынікамі. Гітлераўскі фашызм пераняў у бальшавіцкага камунізму: канцэнтрацыйныя лагеры, знешнюю атрыбутыку (рух "чырвоных сцягоў", "святы працы", фразеалогію) і многае іншае.

Розніца паміж фашызмам і нашым "камунізмам" — ва ўсеагульным, усеабдымным таталітарызме апошняга. Фашызм — гэта толькі менш арганізаваны варыянт "камунізму", а Гітлер — толькі нікчэмны пераймальнік Сталіна. Калі мы прасочым дзейнасць КПСС за час яе існавання, то свет скаланецца, а дзеянні езуітаў пададуцца дзіцячай забаўкай. Фашызм злучыў у сваіх руках дзве сілы: уладу і ідэалогію, але не знішчыў прыватную ўласнасць. Ва ўсіх краінах, дзе камуністы захапілі **ўладу**, яны цалкам завалодалі ідэалогіяй і забралі ва ўсіх **уласнасць**. Гэта і ёсць сапраўдны таталітарызм. З фашызму лягчэй выйсці, бо захоўваецца прыватны базіс. Аб гэтым сведчаць прыклады — Заходняя Германія пасля разгрому фашызму і Чылі ў сучасных умовах. Наша выратаванне — назад ад апрабаваных у свеце шляхоў.

Пачынаць адраджэнне трэба з аднаўлення падмурка ўсёй культуры — праваапарадку, што разумеецца не ў вузкім сэнсе, не толькі як барацьба са злачыннасцю, а з выразнага вызначэння, што ёсць Дабро і Зло для ўсяго народа, гэта значыць рашуча адмежавацца ад "камуністычнага" мінулага. Праз галосныя прынцыпы пры абсалютным верхавенстве Суда над любой уладай, памятаючы, што злачынствы перад народам не маюць тэрміну даўнасці. Праз рэальнае адмаўленне ад палітыкі сілы, праз рэальнае права нацыі на самавызначэнне, праз прыватную ўласнасць як натуральны рэгулятар эканомікі і адзіную базу адраджэння культуры.

Страчаны намі сэнс існавання, г. зн. культуру неабходна адраджаць як у дзяржаўным маштабе, так і ў кожным чалавеку. Шлях набыцця сэнсу ляжыць не ў падачках на жабрацтва нашага духоўнага жыцця, а ў адраджэнні сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржаўнасці. Аснова ўсяго — прымат чалавечай асобы. Ідэя сацыялізму ў бальшавіцкім плане стварыла хаос, разбурыўшы набыты народам сэнс, і без прызнання гэтага, без пакаяння мы асуджаны. Лёс народа даражэйшы за любую ідэю, а ўвасабленне яго лёсу — у набыцці сэнсу існавання, г. зн. у спасціжэнні культуры на новым этапе. Вобразна кажучы, "назад" у цывілізаваны свет, або, перафразуючы вядомы выраз, "уніз па лесвіцы, якая вядзе ўверх". Іншага шляху — няма.

**Барыс ЖАГРЫН**

*г. Мінск*

СЛОВА

# Бог і вялікая літара

ШМАТ гадоў назад А. Салжаніцын гаварыў, што толькі ў Савецкім Саюзе слова *Бог* пішуць з малой літары, але затое тут КДБ пішацца аж з трох вялікіх літар. Цяпер ж шмат хто кінуўся ў іншую крайнасць: у газетах, часопісах, кнігах пішуць, напрыклад: *яй-Богу, кожны Божы дзень.* Здаецца, яшчэ адзін крок, і станем пісаць: *па-Боску, Божы адуванчык* (стары, нямоглы чалавек), *няБожчык, бязБожнік, уБогі, даліБог.* Зрэшты, апошняе слова ў перыяд фармавання беларускай арфаграфіі "Наша ніва" (1906, N 5) падае так: *далі Бог.* Але перш чым гаварыць пра гэтую крайнасць ды шукаць пэўнага выйсця з яе, варта зрабіць кароткі экскурс у гісторыю пытання.

Слова *Бог*, як абазначэнне вярхоўнай істоты, стваральніка і кіраўніка свету і як увасабленне праўды і спагадлівасці, з даўніх часоў стала па розных прычынах (рэлігійных, маральных, этычных і іншых) адным з найбольш ужывальных у самых разнастайных маўленчых сітуацыях. Такое стаўленне да Бога народ замацаваў і ў прыказцы "Без Бога ні да парога". Сотні разоў гэтае слова (і, зразумела, у напісанні з вялікай літары) скарыстоўвалася ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, іншых аўтараў дасавецкага часу. Гэтак жа часта і стылістычна абумоўлена ўжывалася яно ў п'есах Я. Купалы "Паўлінка", "Раскіданае гняздо", вершах і паэмах, а таксама публіцыстычных артыкулах 1919—1920 гг., напісаных падчас польскай акупацыі; напрыклад, у артыкуле "Як у казцы": *Бога свайго, новага Бога, усемагутны Бог.*

У першыя дзесяцігоддзі бальшавіцкага атэізму становішча рэзка змянілася. Пачаўся рашучы наступ на рэлігію — "опіум для народа". Як зазначае У. Конан у артыкуле "Біблейскія вобразы і хрысціянскія матывы ў паэзіі Янкі Купалы", "у 20—30-я і наступныя гады адбылося поўнае абязбожванне дасавецкай спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Гэта значыць, яе фальсіфікацыя ідэалагічнаю цэнзураю і прымусоваю самацэнзураю. Вось чаму сёння так важна звярнуцца да першапублікацый і рэстаўраваць аўтэнтычнасць літаратурнай класікі". Тут дарэчы прыгадаць і шматлікія факты іншага характару, звязаныя з маніпуляцыяй у дачыненні да зямных багоў. М. Лужанін ("Полымя", 1997, N 4) супастаўляе прыжыццёвае выданне твораў Я. Коласа з выданнем 1972 г., паказвае, як кан'юнктурна падганялі паэтавы радкі пад новыя ідэалагічныя ўстаноўкі: замест "Каб Сталінскім шляхам прабіцца ў вышыні..." зрабілі "Каб Ленінскім шляхам...", замест "Свяціць па старонцы Сталінскае сонца" стала "...Ленінскае сонца" і г.д.

Свабода творчасці была пастаўлена пад кантроль камуністычнай партыі. На ўсю моц дзейнічаў прынцып партыйнасці літаратуры і мастацтва. *Бог* амаль знікае са старонак друку. Так, у трагікамедыі Я. Купалы "Тутэйшыя", напісанай у 1922 г. і апублікаванай у 1924 г., гэта слова сустракаецца толькі як кампанент у складзе фразеалагізма "ні богу свечка ні чорту качарга" і крыху перайначанай прыказкі "Бачыў бог, што не даў свінні рог, а рэгістратару панавання", а з усіх іншых яго твораў савецкага часу ўжываецца толькі аднойчы — у вершы "Піянерскае". Каб апублікаваць твор, нельга было не лічыцца з ідэалагічнымі патрабаваннямі. Пішучы, аўтар чуў голас унутранага рэдактара. Слова *бог* (ужо з малой літары) калі і выкарыстоўвалася зрэдку, то звычайна ўкладвалася ў вусны старога чалавека ці адмоўных персанажаў. У "Дрыгве" Я. Коласа яно ўжываецца пры апісанні ксяндзоў, у маўленні польскага салдата, войта Бусыгі і адзін раз (відаць, выпадкова) у мове дзеда Талаша як кампанент выразу *дзякуй богу.*

Атэістычная прапаганда насіла ваяўнічы, наступальны характар. З песні слова не выкінеш: не заставаліся ўбаку і пісьменнікі. Карыкатурна, у сатырычным асвятленні падаюцца Бог і біблейскія святыя ў паэме "Біблія" К. Крапівы. А ў яго "Камсамольскіх прыпеўках" чытаем: "Мы саб'ём і чорту рогі, богу вырвем бараду". Або вось як дзед выхоўвае ўнука ў аповесці М. Лынькова "Міколка-паравоз" (твор стаў хрэстаматыйным): "— Немцы ж гэтыя... У іх жа царскія арлы... Ды з імі бог яшчэ гэты.. На кожным поясе напісана... — А ты, унуча, яшчэ раз плюнь і на арлоў, і на бога... І арлам галовы скруцім... А дасць бог, і богу шыю звернем..."

У першыя занадта цяжкія месяцы Айчыннай вайны Сталін, каб прыдбаць дадатковага саюзніка, мусіў пайсці на супрацоўніцтва з праваслаўнай царквой. Пачалося паслабленне ў барацьбе з рэлігіяй. Дзе-нідзе ажывалі ўцалелыя цэрквы, адчынены былі некалькі духоўных семінарый і акадэмій. Часткова была знята няпісаная забарона на ўжыванне слова *бог* (з малой літары). Нават артылерыю з блаславення "Бацькі ўсіх народаў" назвалі "богам вайны". Паслабленне працягвалася і ў пасляваенныя дзесяцігоддзі. Але кіраўнічы бязбожнік усё роўна не губляе сваёй сутнасці. Як толькі В. Быкаў у 1985 г. не з пазіцый сацыялістычнага рэалізму апісаў у рамане "Кар'ер" сям'ю свяшчэнніка Бараноўскага, аўтара пачалі цкаваць з усіх бакоў, абвінавачваючы ў "гульні ў божаньку".

На пачатку 90-х гадоў была ліквідавана манаполія кампартыі на ўладу. Падзьмуў вецер часу ў іншы бок, і цяпер амаль усе былыя бязбожнікі сталі шчырымі вернікамі, а некаторыя ваяўнічыя атэісты, не пакаяўшыся, пасябравалі з вышэйшымі духоўнымі асобамі. І цяпер у вусных выказваннях і друку слова *бог* стала адным з самых высокачастотных. Дык ці заўсёды гэта слова і вытворныя ад яго трэба пісаць з вялікай літары? Давайце паразважаем.

Бясспрэчна, калі яго ўжываюць для абазначэння вярхоўнай істоты, яно ўспрымаецца як індывідуальная назва, як уласнае імя і таму павінна пісацца з вялікай літары: *І блаславіць нас на змаганне Бог* (Н. Гілевіч); *Пра гэта знаем толькі я і Бог* (В. Зуёнак); *Марыя дзякуе Богу за тое, што ў самыя цяжкія хвіліны ён выратаваў яе* (ЛіМ); *Ён не згубіў веру ў Бога* (ЛіМ).

Вялікую літару трэба захоўваць і ў некаторых прыметнікавых спалучэннях, дзе прыметнік звязваецца ў нашай свядомасці як утварэнне ад слова *Бог* у яго першасным, зыходным значэнні: *Божая воля, Боскі гнеў, Богаў сын* (Ісус). У астатніх выпадках гэтыя прыметнікі, як і вытворныя назоўнікі і дзеясловы, трэба падаваць з малой літары: *богабаязны, богаслужэбны, богаадступніцтва, богаслужэнне, богатварыць, божкаць, божканне* і інш. Дарэчы, гэтак жа іх пісалі і ў дасавецкі перыяд. Так, у "Слоўніку беларускай мовы" І. Насовіча знаходзім: *божы дзень, не божкай, не божкайся.* Тое самае і ў рускай мове: напрыклад, у двухтомнай працы М. Міхельсона "Русская мысль и речь" (1903): *божья коровка.*

У нашай мове, як і ў некаторых іншых, слова Бог развіло ў сабе зафіксаванае слоўнікамі пераноснае значэнне "выдатны спецыяліст у якой-небудзь справе", якое трэба пісаць з малой літары: *хвалёны бог электразваркі* (У. Краўчанка).

Асобнай гаворкі патрабуюць фразеалагізмы з кампанентам *бог.* А іх каля сотні. Сярод іх ёсць і такія, у якіх кампанент *бог,* калі яго апрадмечваць, вяртаць яму зыходны сэнс, знаходзіцца, з рэлігійнага пункту гледжання, у не зусім сумяшчальным суседстве: *у бога цяля ўкраў, бачыць шклянога бога, браць бога за бараду, браць на бога, ад бога выспятка, бог бацька, не нашага бога, (страляць) богу ў вокны, як у бога за пазухай* і інш. Яны здаўна трывала прыжыліся ў мове як цікавыя, арыгінальныя знаходкі, іх не выцесніш ніякімі ўказамі ці дэкрэтамі, ды ў гэтым і няма патрэбы.

Як вядома, галоўнай, вызначальнай прыметай фразеалагізма з'яўляецца яго семантычная цэласнасць, унутранае сэнсавае адзінства, нераскладальнае на асобныя значэнні кампанентаў. Састаўныя часткі фразеалагізма толькі знешне падобныя на словы, але гэта цені, прывіды слоў, бо не маюць асобнага лексічнага значэння. І калі іх разглядаць як звычайныя словы, то з іх значэнняў немагчыма вывесці цэласны змест фразеалагізма, бо іх паасобныя значэнні даюць не суму значэнняў, а зусім іншы, новы сэнс. Напрыклад, у сказе "А цяпер бог ведае, ці ўладкуюся дзе-небудзь" выраз *бог ведае* абазначае "невядома". Або яшчэ прыклад: *Пакуль тая бульба, то вы закусіце чым бог паслаў* (П. Місько). У выразе *чым бог паслаў,* што значыць "тым што ёсць", ніяк нельга атаясамліваць назоўнікавы кампанент са словам *Бог* у яго першасным значэнні, а *паслаў* разумець як "адправіў па пошце ці праз пасланца". Гэты фразеалагізм, як і любы іншы, семантычна не звязваецца з сістэмай значэнняў, уласцівых адпаведным аднагучным словам, таму ў тлумачальных слоўніках ён вынесены ў канец слоўнікавага артыкула і падаецца за знакам ромба як асобная моўная адзінка.

Параўнаем сэнсавы змест яшчэ некалькіх выразаў: *напрамілы бог* — "вельмі шчыра і настойліва"; *давай бог ногі* — "паспешліва пабег, знік"; *у бога цяля ўкраў* — "горшы за іншых, правінаваціўся ў чым-небудзь". *Дай бог (божа)* — гэта і "вельмі добра", і "вельмі добры", і "вельмі вялікі", і "вельмі многа": *Упарыць жа ясень трэба дай бог* (І. Пташнікаў); *Гаспадарка дай божа* (Т. Хадкевіч); *Сямейка — дай божа* (М. Лобан); *Насушылі баравікоў дай божа!* (С. Александровіч).

Апрача выразаў з кампанентам бог, ёсць нямала іншых, састаўной часткай якіх выступае былы ўласны назоўнік: *пець лазара, садом і гамора, канцы ў Лету, перайсці рубікон* і г.д. Становячыся часткай фразеалагізма, імя ўласнае, як піша вядомы даследчык славянскай фразеалогіі В. Макіенка, "страчвае сувязь з канкрэтнай асобай ці аб'ектам, г.зн. вычэрпвае сваю анамастычную функцыю. Яно... пачынае абагульваць, значыць, выконваць функцыю імя агульнага". Такі кампанент павінен пісацца з малой літары, калі трымацца логікі, а не традыцыі і "фанатычнага кансерватызму" (Л. Булахоўскі) у арфаграфіі. Напісанне такіх кампанентаў з вялікай літары перашкаджае ўспрыманню фразеалагізма, бо штучна нібы аднаўляе этымалагічнае значэнне яго частак — асобных слоў, без патрэбы актуалізуе гэтыя часткі. Іншая справа, калі такая актуалізацыя кампанента робіцца знарок — для дасягнення пэўнага мастацкага эфекту: *І атэісты богу душу аддаюць* (ЛіМ); — *Сам бог прынёс вас сюды, Іван Кірылавіч. — Нешта я не заўважыў, каб ён мяне нёс. Сам узбіраўся на трэці паверх* (К. Крапіва); *Не будзем вас затрымліваць. З богам, як кажуць, хоць і ўсе мы тут атэісты* (І. Чыгрынаў).

З малой літары трэба пісаць і выразы з кампанентам божы, бо ў іх складзе ён страціў свой першапачатковы сэнс: *баранчык божы, божы адуванчык, божы палец, конь божы, божая сляза, іскра божая, на божай пасцелі* і інш.

Што да прыказак, то, паколькі яны неаднатыпныя з семантычнага боку, гэта бярэцца пад увагу пры іх напісанні. Калі прыказка мае алегарычны сэнс, г.зн. у ёй гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае, то кампанент бог варта падаваць з малой літары: *Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў; На табе, божа, што нам нягожа; У бога дзён многа; Дай божа нашаму цяляці ваўка спаймаці.* Калі ж прыказка ўжываецца ў прамым значэнні, слова Бог трэба пісаць з вялікай літары: *Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей; На Бога спадзявайся, а сам не давайся; Як трывога, тады да Бога; Беражонага і Бог беражэ.*

Як відаць са сказанага, у адных выпадках трэба пісаць *Бог,* а ў другіх — *бог.* Выказаныя тут меркаванні, магчыма, і патрабуюць некаторай карэкціроўкі. Хацелася б, каб Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа дзеля прыпынення разнабою ў напісаннях афіцыйна ўнёс пэўныя змены ў арфаграфічныя нормы.

А што да памянёнага напачатку *КДБ,* то ў нашай рэспубліцы (і, здаецца, толькі ў нашай) ён уцалеў і, як і раней, пішацца з трох вялікіх літар.

**Іван ЛЕПЕШАЎ,**
**прафесар Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы**

УГОДКІ

# Заранка на нацыянальным небасхіле

## 105 ГАДОЎ НАЗАД НАРАДЗІЛАСЯ ЗОСЬКА ВЕРАС.

Лёс наканаваў ёй доўгае жыццё — памерла Людвіка Антонаўна 8 жніўня 1991 года. Яна была знаёма з Максімам Багдановічам, Змітраком Бядулем, Фларыянам Ждановічам, іншымі выдатнымі прадстаўнікамі нацыянальнай літаратуры, культуры, якія сталі ля вытокаў беларускага адраджэння. Ды і сама яна стала своеасаблівай заранкай на яго небасхіле.

А да беларускасці Зоська Верас далучылася яшчэ падчас навучання ў Гродзенскай жаночай гімназіі, у якой восенню 1909 года быў створаны гурток беларускай моладзі. На першым яго пасяджэнні яе, Людвіку Сівіцкую (сапраўднае прозвішча), тады вучаніцу шостага класа, выбралі ў склад праўлення і даручылі загадваць бібліятэкай.

У 1913—1914 гадах вучылася на агародніцка-пчалярскіх курсах у Варшаве, якія скончыла напярэдадні першай сусветнай вайны. Жыла ў фальварку Альхоўнікі на Сакольшчыне, які належаў яе дзеду па маці. У 1916 годзе Зоська Верас апынулася ў Мінску, працавала ў Таварыстве помачы ахвярам вайны, удзельнічала ў беларускім грамадска-культурным руху. У 1923 годзе пераехала ў Вільню, дзе і жыла да апошніх дзён...

Яшчэ падчас навучання ў гімназіі пачала збіраць беларускія назвы раслін, а ў 1924 годзе выдала "Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік". Гэтая праца не страціла вартасцяў і сёння. Пацвярджэннем таму такі факт: у 1967 годзе матэрыялы, сабраныя Зоськай Верас, цалкам увайшлі ў "Лаціна-руска-беларускі батанічны слоўнік" А. Кісялёўскага.

Будучы старшынёй Беларускага кааператыўнага таварыства "Пчала", Зоська Верас прымала захады па стварэнні спецыяльнага выдання, якое б стала добрым памочнікам для пчаляроў, а ў выніку ў жніўні 1934 года выйшаў першы нумар часопіса "Беларуская борць". А дагэтуль, у 1927—1931 гадах, Зоська Верас арганізавала і рэдагавала дзіцячы часопіс "Заранка". І не толькі рэдагавала яго, а і з'яўлялася пастаянным аўтарам, карэктарам, на яе плечы лягло і распаўсюджванне выдання. Праўда, у гэтай справе ёй дапамагаў муж Антон Войцік, які, да ўсяго, перакладаў для "Заранкі" творы з рускай і ўкраінскай моў. Паступова ў часопіса з'явіліся і свае аўтары — Гальяш Леўчык, Сяргей Новік-Пяюн, Міхась Машара і іншыя. Дарэчы, пры матэрыяльнай падтрымцы Зоські Верас у 1928 годзе пабачыў свет і першы зборнік паэзіі М. Машары "Малюнкі".

І сама яна пісала. Першыя спробы адносяцца яшчэ да 1907 года, калі друкавалася ў часопісе Кіеўскага жаночага камерцыйнага вучылішча "Подснежник". А па-беларуску выступіла ў 1911 годзе ў газеце "Наша Ніва": пад псеўданімам Мірко былі змешчаны вершы "Ветру", "Песня сіраты", апавяданне "Дайце мне прыязнь людскую".

Найбольш поўна творы Зоські Верас прадстаўлены ў кнізе "Каласкі", выпушчанай выдавецтвам "Юнацтва" ў 1985 годзе. Зборніку папярэднічае прадмова Ніла Гілевіча "Чытачу на добразычанне", а завяршае яе пасляслоўе Янкі Саламевіча "Адданасць", дзякуючы якім сучасны чытач упершыню так шмат даведаўся пра гэтую выдатную адраджэнку.

Вялікую цікавасць уяўляюць і ўспаміны Зоські Верас, найперш — "Пяць месяцаў у Мінску", у якіх яна згадвае, як сустрэлася і пасябравала з М. Багдановічам, які прыехаў у Мінск восенню 1916 года. Каштоўныя інфармацыйнай насычанасцю і згадкі пра выданне "Заранкі", іншыя мемуарныя запісы.

А пра самую Людвіку Антонаўну самыя светлыя згадкі пакінулі тыя, хто неадночы наведваў яе ў Вільні. У першую чаргу — паэт Сяргей Панізнік. Завітвалі туды і навукоўцы, бо Зоська Верас магла шмат расказаць карыснага і цікавага пра падзеі, якія адбываліся ў пачатку нашага стагоддзя, калі беларусы ўпершыню па-сапраўднаму ўсвядомілі сябе народам. Але вяло ў Вільню і жаданне сказаць ухвальное слова самой Людвіцы Антонаўне за яе самаадданую працу ў імя нацыянальнага адраджэння, маральна падтрымаць выдатную дзеячку, нагадаць, што на Бацькаўшчыне яе ведаюць і шануюць.

**А. АН-ЕВІЧ**

## Коласаўцы — ва Уруччы

Ва Уруччаўскім гарнізонным Доме афіцэраў існуе добрая традыцыя — праводзіць літаратурна-музычныя сустрэчы для ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў. Пісьменнікі, навукоўцы, артысты ахвотна прыходзяць сюды. Па запрашэнні загадчыцы бібліятэкі Дома афіцэраў Марыны Пазняковай нядаўна ў воінаў гарнізона пабывалі старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Іван Курбека, пляменнік песняра Сымон Белы, вядомы беларускі паэт Мікола Аўрамчык, выкладчыца Белдзяржуніверсітэта, дацэнт Вольга Казлова.

Сустрэча прысвячалася 115-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа. Выступоўцы падзяліліся ўспамінамі пра народнага паэта, расказалі пра яго жыццё і творчасць. Гучалі песні на словы песняра, вершы, прысвечаныя яму.

На памяць госці падарылі бібліятэцы сувенірныя выданні музея.

Т. ЛЯВОНЧАНКА

## Першае вітанне — "Чырвоны каптурок"

28 верасня распачаў свой юбілейны XXXV тэатральны сезон Брэсцкі тэатр лялек. Па ужо добра ўсталяванай традыцыі, гэта была прэм'ера — "Чырвоны каптурок" паводле п'есы С. Когана і С. Яфрэмава ў пастаноўцы галоўнага рэжысёра тэатра Зміцера Нуянзіна (мастак Мікола Данько, кампазітар Анатоль Мядзведзеў).

Спектакль вырашаны ў духу Гіньёля; напачатку апавядальнік вырашае прыбраць з казкі Ваўка... Аднак Шэры ўсё ж з'яўляецца, і павольныя ды лагодныя падзеі набываюць імклівае развіццё. І хоць глядач чуе знаёмыя дыялогі пра "вялікія вушы ды вялікія зубы", бачыць вялізную стрэльбу, пераживае за самую Чырвоны Каптурок, а таксама за ейную Бабулю, — урэшце ўсе застаюцца жывымі, а Ваўку так і не ўдаецца нікога праглынуць.

Адкрыццё сезона сталася добрай "размінкаю" для брэсцкіх акцёраў-лялечнікаў напярэдадні Міжнароднага тэатральнага фестывалю "Белая вежа-97", што адбудзецца ў Брэсце з 2 па 5 кастрычніка.

І. Х.

## З лекцыяй "Маладая літаратура"

Адзначаючы свята Дня беларускага пісьменства і друку, выданне асветнікаў Рэспублікі Беларусь "Настаўніцкая газета" за 6 верасня г.г. змясціла інтэрв'ю "На маладых — надзея! І вялікая!" з галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць", старшынёй камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў па рабоце з маладымі Генрыхам Далідовічам.

Як і разлічвалася, гэтая публікацыя выклікала цікавасць у выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, якія зажадалі сустрэцца з пісьменнікам і з яго вуснаў больш пачуць пра сённяшнюю маладую літаратуру. Нядаўна такія сустрэчы адбыліся ў Мінскім педвучылішчы імя М. Танка перад педагогамі і навучэнцамі і ў інстытуце вышэйшай школьнай і гуманітарнай адукацыі перад слухачамі дзеючых курсаў, на якіх цяпер займаюцца выкладчыкі мовы і літаратуры раённых і абласных вучылішчаў, тэхнікумаў і каледжаў. У апошняй сустрэчы прыняў удзел паэт і празаік Алесь Камароўскі.

Л. НЯМКЕВІЧ

## Памяці Яўгена Ганкіна

Імя Яўгена Ганкіна добра вядома аматарам кіно. Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, ён меў дачыненне да пастаноўкі больш чым 50 стужак, сярод якіх і такія, што атрымалі шырокі рэзананс — "Гадзіннік спыніўся апоўначы", "Я родам з дзяцінства", "Хлеб пахне порахам", "Чырвонае лісце" і іншыя. А яшчэ Я. Ганкін захапляўся графікай, любіў маляваць сяброўскія шаржы. Са шматгранная дзейнасцю яго можна пазнаёміцца, завітаўшы ў Фундаментальную бібліятэку імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук, дзе экспануецца выстаўка, прысвечаная памяці знакамітага дзеяча нацыянальнага кіно. На выстаўцы прадстаўлены эскізы Я. Ганкіна да фільмаў, а таксама яго графічныя работы і сяброўскія шаржы.

---

***Для чытачоў "ЛіМа" — гэта не першае знаёмства з творчасцю вядомай не толькі ў Мінску, але, спадзяёмся, і ў Беларусі суполкі маладых літаратараў, што ўзялі сабе адметны назоў — "Бум-Бам-Літ". Аднак, калі летась і пазалетась перавага аддавалася паэтычнай творчасці "бумбамлітаўцаў", то на гэты раз, як модна казаць, тэксты выключна празаічныя. Чытачы, вядома ж, пазнаюць сярод "гэтых" празаікаў "тых" паэтаў, але гэта толькі пацвярджае той факт, што практычна ніводзін "бумбамлітавец" не працуе ў адным пэўным жанры. Усё больш цягне іх туды, дзе межы жанраў размываюцца, расплываюцца, і дзе, па іх меркаваннях, і пачынаецца ўласна літаратура. Новая беларуская літаратура, сведкамі нараджэння якой мы з'яўляемся...***

***Старэйшым, вядома ж, хацелася б, каб за знешняй простасцю (альбо складанасцю) "тэкстаў" маладых была вялікая праца душы і розуму. Але — няхай пераконваюць іх у гэтым самі маладыя ў сваіх публікацыях, у тым ліку і гэтых...***

Івушка ПАНІНА

## Яна і я

Жанчына п'яная. У яе распуснае да дасканаласці цела і штампаваны пластыкавы твар. Яна ўсхліпвае, заціснуўшы ў кулачку сінюю птушку.

Я й сам п'яны, але зусім іначай. Я безупынна рагачу, упускаю акуляры ў таматны соус і схіляю тугадума Савасцьянава да педэрастыі.

Жанчына любіць грошы і аўтамабілі.

Я люблю кільку. Адкрываеш кансервы, а там — адны вочы.

У цяжкія хвіліны жыцця жанчына кідаецца шклянкамі ў столь.

У такія ж невыносныя моманты я слухаю кружэлку "Речь товарища Л. И. Брежнева на XVII съезде ВЛКСМ".

Яе так званыя сябры вандруюць па замежжах ды шлюць на радзіму маляўнічыя паштоўкі.

Мае прыяцелі час ад часу вешаюцца ў сарціры. Няўдала.

Жанчына не памятае сваіх бацькоў.

Затое мой бацька быў міністрам чыгуначнага транспарту.

Раніцай яна выводзіць гуляць калматага сабаку па мянушцы Дападуп.

Я аптыміст.

Чаму?

## Споведзь

Нуль, сонейка маё, нуль і татальная ўраўнілаўка: снягі падаюць, дажджы крапаюць, асобіны рознапламенныя жывуць ды распладжваюцца — усяму свой час і свая чарга, і не можа быць інакшай, і не трэба табе таго, праўда?

На размеркаванні роляў выпала мне не лепшая: змяя — мой татэм, мудрасць і шчырае каварства — мая каінава пячатка. Аднак не буду я душыцца сваімі ж кольцамі ці кусаць ад злосці ўласны хвост! І не буду поўзаць там, дзе магчыма трапіць людзям пад ногі — бо не паважаюць нас у гэтай гіпербарэйскай краіне, а толькі б'юць кіямі ды даваць рагацінамі. Не, ціхусенька і асцярожненька схаваюся ў высокай траве, падпільноўваючы дробную дзічыну, нібыта няма мяне і ніколі не было, ды штогод буду скідваць старую скуру.

Нуль, дружачка, ачко — дваццаць адно, ці дальбог, акурат у яблычка! Памятаеш падзенне прамаці? Па іроніі лёсу, клічуць мяне тут Евай ды некаторыя яшчэ — Арыяднай. Я й спакусніца, і пуцяводная нітка ў лабірынце. У прыцемках улада мая! Да крыжыка твайго прытулюся неад'емным кружочкам: цырк і царква — аднаго кораня словы, а што ў іх агульнага? Вядома ж, я.

Нуль, сонейка маё, пачатак без канца: ноч, ню, на; а сама па-за ўсімі іменамі — самота. Разгортваецца папірус, згортваецца папірус... Толькі таямніца і застаецца, бо як жыць без яе?

А я — змяя, усім стварэнням стварэнне і верны вартаўнік дрэў у тваім садзе. Надышоў час пакаштаваць плод. Вока выклівае спелыя яблыкі ў густым лісці. Але тое, шуканае, высока — варта прынесці драбіны. Чаго прагнеш: божай ласкі ці ведаў? Пакутуеш перад выбарам, але я не падкажу! Павер змяі, не ведаю: нават калі хаваю ключы ад брамы, гэта яшчэ не значыць, што магу ўвайсці ў двор. Твой шлях — твой час. Хіба што блаславіць цябе магу, накрэсліць мапу, талісманам запаўзці ў тваю кішэню, падсцёбваць пугай тваё ўяўленне ды віцца ў чаканні цябе. Незайздросная доля! Але ж ведаю, што раблю.

Скруціўшыся ў колка, падрэмваючы на зялёным узгорку, буду чакаць. У ціхім смутку і спакойнай радасці я змяя, іерогліф Логаса. Той, хто бяжыць ад мяне, напаткае мяне.

І таму мне добра.



Віктар ЖЫБУЛЬ

## Лабараторная работа N 1

### ЛІТАРАТУРНА-ХІМІЧНЫ АБРАЗОК

Запаяная ёмістасць матавага колеру, унутры якой панавала вечная цемра, была выраблена (выліта, выдзьмута) з матэрыялу несвядомасці і нерашучасці. І была яна падвешана на чыгунным ланцугу страху над... Над чым — цяжка ўбачыць, бо ўсё наваколле ахінулі туманы нахабства і падманаў.

Але не толькі вечная цемра знаходзілася ў ёмістасці: была туды наліта і кіслата праўды, якая магла растварыць солі зла і несправядлівасці.

І праела кіслата ў ёмістасці дзірку свядомасці і рашучасці, вываліўшы вонкі сваю кроплю.

Былі б у й той кроплі вочы, яна б убачыла матэрыю, якая складаецца з солей подласці, крывадушнасці, бяспамяцтва і здрадніцтва. Але кіслата і без таго добра рэагавала на пах варожых рэчываў. Паралізуючыся ўсімі колерамі мудрасці і прыгажосці, кропля пачала адрывацца ад ёмістасці.

І паляцела кропля кіслаты імкліва ўніз.

Прызямлілася, пачала раз'ядаць шкодную матэрыю, прарабляючы чарговую дзірку, каб прайсці наскрозь праз гэты агідны пласт і расцячыся па плоскасці прыгажосці і гармоніі, што схавалася пад ім.

Пласт не бясконцы.

Кропля нявечная, але не апошняя.



Дзірка вечная, але таксама не апошняя.

Матэрыя вечная, але дзіравая.

## Галоўнае

### ЭСЭ-ЗАМАЛЁЎКА

Учора, напрыканцы дня, я адзначыў для сябе: "Усё, што можна, я сёння зрабіў. Галоўнае адбудзецца заўтра..."

Так яно і атрымалася: галоўнае адбылося сёння. Адбылося і перастала быць галоўным, бо засталося недзе ў мінулым. А заўтра (хоць яно пакуль не надышло) яшчэ нешта перастане быць галоўным, а нешта стане ім. Адно галоўнае саступіць месца нечаму іншаму, яшчэ больш Галоўнаму. Галоўнае — яно заўсёды наперадзе...

Галоўнае сапраўды так і засталося наперадзе. Яно зараз недзе далёка-далёка. А што ж будзе, калі я дасягну мяжы, на якой знаходзіцца гэта Галоўнае? Што ж там далей? Калі Галоўнае пройдзе, то значыць, што пасля яго ўжо ніякіх з'яў не будзе, інакш з чым бы мы тады параўналі, што Галоўнае — гэта менавіта Яно? Дык што ж гэта за Галоўнае, пасля якога ўжо нічога не будзе? Атрымліваецца, што Яно — самае страшнае, што можа толькі здарыцца. Але калі гэта так, дык ці трэба лічыць усе войны, катастрофы, што адбываліся на Зямлі і адбываюцца зараз, нечым жудасным? Бо што яны ў параўнанні з Галоўным?

Аднак пасля Галоўнага не адбудзецца ўжо нічога, у тым ліку і страшнага. Не будзе ні войнаў, ні рэзруху, ні голаду, ні дыктатуры нейкай там... Дык ці трэба ў такім выпадку баяцца гэтага Галоўнага, калі Яно нясе нам мір і спакой? Атрымліваецца, што гэта — самае лепшае, што можа толькі здарыцца. А калі так, дык ці трэба радавацца, заўважаючы вакол сябе розныя прыемныя дробязі? Бо што яны ў параўнанні з Галоўным?

Але пасля Галоўнага не адбудзецца ўжо нічога, у тым ліку і прыемнага. Не будзе ні шчасця, ні радасці, ні кахання, ні здзяйснення запаветных мараў. Замест Усяго — Нічога. А гэтае Нічога — рэч даволі незразумелая. Яно падыме свой першы крык, нарадзіўшыся пасля тытанічных пакут з нетраў цяжарнага Галоўнага, якое зараз жа знікне, нібы яго ніколі і не было. А Нічога будзе валадарыць сусветам яшчэ некалькі вечнасцяў, пакуль ад яго сапраўды нічога не застанецца...

Дык што ж гэта за Галоўнае? Што Яно нам нясе? Што нам ад Яго чакаць? І ці можна ўвогуле ад Яго чакаць нечага?

Пажывём — пабачым...

Галоўнае — што ёсць Галоўнае.

Зміцер ВІШНЁЎ

# Штампікі кракадзіла

Я ступіў на бітае бутэлечнае шкло. Было крыху балюча, але спалучэнне зялёнага шкла з крывавымі нагамі дазваляла мне пазбавіцца болю. Болем я спрабаваў выціснуць з сябе каханне да Ганкі Шханавай.

Я заспяваў песню пра тубыльцаў з выспы Мадагаскар і выцягнуў з кішэні муляж чарапахі, на панцыры якой свяцілася некалькі свежых няроўных дзірак. Я кінуў муляж у калюжыну. Вада цмокнулася з падарункам і ціха яго заглынула. З'явіліся дзесяткі бурбалак, якія, перад тым як знікнуць, нешта пракрумкалі.

— Вось і прыйшла да мяне вясна, — сказаў я.

— Восень ужо, — сказала Ганка. Яна стаяла каля суседняй калюжыны і трымала ў руцэ вялізны сачок для лоўлі матылёў.

— Учора на плошчы Перамогі мастак Волкаў стаяў з карцінай, на якой быў намаляваны парсюк, — сказаў я.

— Дурань.

— У яго не было чаго есці! Ён цэлы год блукаў па сутарэннях рытмаў і са спагеці вырабляў свае творы.

— У-у-у, — здзівілася Ганка.

— Гэткі.

— Табе балюча, — сказала Ганка, — Зміцер, сыдзі са шкла.

— Зялёныя яшчаркі коўзаюцца па маіх пальцах. Прыйшла вясна і яны павыпаўзалі са сваіх норак. Цяпер я магутны. Я — магнітны магут.

— У-у-у, — сказала Ганка.

— І наогул, я — бульдозерны эскалатар.

— Гэта як?

— Моўчкі па панядзелках. З рыпам па аўторках. Са свістам у астатнія дні.

— Не.

— Не? Не разумею.

— Па тваіх пальцах коўзаюцца не яшчаркі, а маленькія кракадзільчыкі. Яны адкусваюць ад тваіх ног мяско.

— Людажэрыкі, — сказаў я.

— Таму выкінь алігатараў!.. Хутчэй.

— Яны ручныя.

— Гэтак без рук і застаюцца.

— Сёння зранку ў маё вакно заляцеў агромністы свінтух і крыкнуў: Ганка!

— Значыць, зноў будзе дождж.

— Я ўтапіў чарапаху, — сказаў я. — Яна сквірчэла. І калі яна сквірчэла, у паветры з'явіліся жоўтыя кампутары з крылцамі і кіпцюрамі. Яны



гудзелі і шчоўкалі, як нейкія гады.

— Табе трэба лячыцца.

— Так, — сказаў я і заплакаў.

Бурштынавыя кропелькі паўзлі па маіх шчоках, як маленькія цягнікі.

Серж МІНСКЕВІЧ

# Рамонак

Балтамтыш не проста займаўся лоўляй свайго подум'я карункамі цянётаў. Балтамтыш шкуматаў свае думкі, быццам жорсткі шквал аблокі. Ён стаяў пад бетонным мурам і чакаў, калі з трэскам, бразгам, віскам прасвідруюцца вірлавокія байніцы, адтуль высунуцца жэралы агнямётаў і будуць паціху, маленькімі плюхамі, паліць яго мяса. Ён, як абшараваны пацук, — напілак шэрай сцяны разадраў на дросткі поўсць, — не ведаў, на каго ўскокнуць і куды ўчапіцца ўсімі сваімі вастротамі. Дзе тыя вочы! Кадык! Пульсапругкія артэрыі!

Злабота прыціскала яго мазжачок, мэрам цяжкі распалены блін чырванаморскага сонца. І мазжачок сціскаўся, моршчыўся, бы ссохлая дзічка. Цень думкі, спрацоўвала як патаемны механізм, што спускаў з кручка сціснутую спружыну. Трохмерную спружыну сцятага кавалка мозга. Пырскі розуму біліся аб унутраныя сценкі чэрапа. Лічыльнік Гейгера! Вось ён злавіў струмень выпраменьвання, і загрукаталі пад косткамі колы-рэйкі. Б'юцца...

Радыяцыя... Радыяцыя...

Кусаць, ірваць, грызці!

Камені пасыпаліся з муроў. Спачатку адзін — азначыў цэнтр, вось ён абмежыўся расколінкамі, захістаўся, задрыжэў і выпаў. Побач з ім, каля бетоннай воспіны, абмежыліся, захісталіся адразу некалькі іншых каменьчыкаў...

Думка!

Doom. Загнаны ў каменны мех, дзе нельга карыстацца мінамётам, чакаеш, калі ружовапузыя монстры закідаюць цябе зялёнымі згусткамі плазмы.

Але гэта не гульня. "Save" і "load" не спрацуюць. Жыццё выпарваецца праз капіляры.

У чорнае дзюрцы з'явілася вока. Яно варочалася — злева і справа ад агромністага льнянога семя мільгацелі вільготныя, масляністыя месячыкі. Пасля на тым жа месцы вылузнуліся дзве імшыстыя наздрыны. Зашумелі.

Шызыя зубы нагадвалі крывую арматуру. Рот патыхаў літарай "у", пасля "о", "а". Паказаліся чарвіныя гланды, у пашыранай гартані рэзка завібравалі вузлаватыя звязкі.

— Ххгкра-ххгкра-ххгкра — інфрагукавы рогат плюшчыўся аб бетон. Сыпаліся камені.

— Вышшшаухргггга! Рыжшабурра! Ама бурражда! — скавытала горла.

Сыпаліся камені.

Пасля таго як яно выхаркае задаволу...

Думкі Балтамтыша пачалі прасочвацца праз трубачкі валасоў, нарошчвацца і застываць на паветры як гумавы клей. Гэта адбывалася вокамгненна. Чорныя валасы пераўтвараліся ў белыя пасмы. Звіваліся. Згіналіся. Разгіналіся. Спіраваліся. І нарэшце бялёсай плынню рынуліся ў ненавісную глотку. У ёй забулькатала, заквохкала. Страўнік задрогкаўся вялізнай піпеткай і сціх.

Той сціх.



А пасмы рваліся туды, дзе толькі што ад сцяны адпалі новыя камені.

Прамінула колькі хвілін.

Галава Балтамтыша, што вісела на зблытаных валасах, нагадвала асьмінога, шчупальцы якога распаўзліся па ўсіх сценках і кутках трохкутнай каморы.

Вязню Балтамтышу мроіўся рамонак.

Алесь ТУРОВІЧ

# Піраміда і Шар

Піраміда і Шар кахалі адно аднаго. Піраміда вельмі баялася, што адным са сваіх вострых вуглоў можа яго параніць, а Шар баяўся, што Піраміда можа паламацца, дакрануўшыся да яго звышцвёрдай паверхні. Самае цікавае тое, што ніхто не ведаў, што нясе ў сабе Шар. Ці ён, па сваёй сутнасці, мыльная бурбалка, ці то звышмоцнае ядро. Піраміда баялася давяраць Шару, бо ў любы момант, як ёй здавалася, ён можа ці то лопнуць, ці куды-небудзь закаціцца. Шар не мог зразумець статычнасці Пірамідзы, яе нежаданне ўвесь час круціцца, шукаць прыгодаў, атрымліваць задавальненне ад пастаяннага вярчэння вакол сваёй восі. Шар калі-нікалі падымаўся на Піраміду і скочваўся з яе, нібы з горкі. Яны атрымлівалі ад гэтага задавальненне (у людзей нешта падобнае называецца сексам). Але Шар пасля пэўны час каціўся па гарызантальнай плоскасці, што для Піраміды было вельмі балюча (у людзей гэта называецца рэўнасцю). Шар не разумеў, чаму Пірамідзе не падабаецца, калі ён жвава скочваецца з яе і коціцца далей. Ён, наадварот, стараўся яе мага далей адкаціцца, каб паказаць, які ён дужы і прыгожы.

Піраміда вырашыла паказаць Шару сваю прыгажосць і падараваць яму эратычны танец. Яна перакулілася, стала на адзін са сваіх вуглоў і стала круціцца, ператвараючыся ў конус. Але гэта... пакрыўдзіла Шар. Ён думаў, што толькі ён умее круціцца, а ў Піраміды гэта атрымлівалася хутчэй і прыгажэй. У залежнасці ад таго, як хутка яна круцілася — яна рабілася то Пірамідай, то таямнічым Конусам. У Шара нічога падобнага не выходзіла (ён марыў стаць кубам, але гэта не было магчыма). Шар пачаў піць і мяняцца ў колеры. Заўважыўшы, што з Шарам робіцца нешта не тое, Піраміда падышла да каханага і запыталася, што здарылася. Ён у адказ пачаў плакаць, жаліцца, што адчувае сябе футбольным мячыкам, з якога выходзіць паветра і вось-вось ён стане падобны на пакамячаную камеру. Піраміда спачувала сябру, але нічога не магла зрабіць — яна заўсёды заставалася пірамідай, і не магла зразумець, чаму з Шарамі часта адбываюцца метамарфозы.

Шары могуць вырастаць і змяншацца, пераўтварацца ў авалы, эліпсоіды... Калі Шар пачынае займацца медытацыяй — ён становіцца эліпсоідам, пасля прымае форму яйка, нарэшце — пялёстка. Калі ён становіцца пялёсткам — атрымлівае прасвятленне". Мноства такіх шароў можна складваць у будысцкія мантры і маліцца на іх. Але гэтыя істоты ўжо не могуць кахаць і жыць, яны толькі паказваюць, як трэба жыць. Нават калі Шар вяртаецца з нірваны, і становіцца Бадхісатвай (тым, хто ахвяруе дзеля людзей сваім месцам у духоўнай іерархіі і спрабуе іх навучыць), гэта ўжо зусім не той Шар. Гэта празрыстае, амаль не бачнае стварэнне. Яго можа ўбачыць далёка не кожны, і кахаць яго немагчыма. Яго можна толькі любіць.

Падумаўшы пра гэта, Шар зразумеў, як добра, што ён не пачаў займацца медытацыяй і што ў яго ёсць Піраміда. Слёзы ў яго высахлі, і ён выйшаў з запою. Да ўсяго ён пачаў ставіцца па-філасофску, адчуваючы, што сапраўды можа стаць ідалам, на якога могуць маліцца. Ён стаў з задавальненнем назіраць за танцам Піраміды і больш не крыўдзіў яе фліртам з гарызантальнай плоскасцю.

Піраміда раптам адчула магутнасць Шара, які сапраўды ў любы момант можа змяніцца — стаць не яе каханкам, а цэлай планетай ці нават сусветам. У якім будзе бясконцая колькасць такіх істот, як Піраміда. І як яе ні супакойваў Шар, даказваючы сваю вернасць, яна не магла гэтаму паверыць. Яна бачыла страшныя сны, быццам Шар становіцца вялізнай істотай, якая не заўважае яе; быццам ён коціцца



кудысьці далёка-далёка, і яна не можа яго дагнаць, быццам ён здраджвае ёй са шматвугольнікамі... Шар не мог нічога прыдумаць, каб супакоіць Піраміду, нарэшце прапанаваў ёй: "Піраміда, я магу ўвайсці ў цябе і ніколі не выходзіць з-пад тваіх рэбраў. Я буду знаходзіцца толькі ў тваім аб'ёме і не буду вырастаць з цябе і некуды выкочвацца. Стань маім домам". Піраміда супакоілася, і, зразумеўшы, якую ўладу дае ёй Шар, прапанавала проста заходзіць у госці. "Я не хачу быць для цябе залатой клеткай, але не магу без цябе". Шар закаціўся ў яе і пачаў думаць, варта з яе выкочвацца ці не. Думае да гэтага часу.

УВАГА!

## Дзяржаўныя стыпендыі маладым і сталым

У 1994 годзе Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах захавання і развіцця культурнага патэнцыялу рэспублікі заснаваны дзяржаўныя стыпендыі дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі ў галіне літаратуры і журналістыкі, музыкі і харэаграфіі, тэатра і кіно, выяўленчага мастацтва, архітэктуры і дызайну. Стыпендыі прысуджаюцца пад выкананне пэўнага творчага праекта дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце звыш 40 гадоў у памеры 6 мінімальных заработных плат штомесячна, творчай моладзі ва ўзросце да 40 гадоў — у памеры 4-х мінімальных заработных плат штомесячна на працягу года.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь **аб'яўляе прыём заявак** ад кандыдатаў на атрыманне дзяржаўных стыпендый на 1998 год. Для разгляду камісіі па прысуджэнні стыпендый неабходна прадставіць наступныя дакументы:

*1) заяву (прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія, адрас з указаннем паштовага індэкса, тэлефон, назва праекта, этапы ажыццяўлення, тэрміны завяршэння, дата, подпіс);*

*2) рэкамендацыю творчага саюза альбо рэкамендацыю за подпісам трох вядучых майстроў у дадзенай галіне дзейнасці;*

*3) творчую біяграфію;*

*4) спіс творчых прац і заслуг.*

**Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве культуры да 1 лістапада 1997 года па адрасе: 220617, г. Мінск, пр. Машэрава, 11, аддзел музычных устаноў і цыркаў, каб. 316в. Даведкі па тэлефоне 223-74-12.**

АБ'ЯВЫ

## БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ

*АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС*

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага саставу (для тых, хто мае мінскую прапіску):**

| | |
|---|---|
| *кафедра музычнай педагогікі, тэорыі і гісторыі выканальніцкага мастацтва* | |
| дацэнт | 1 |
| *кафедра драўляных духавых інструментаў* | |
| прафесар | 0, 25 |
| ст. выкладчык | 1 |
| дацэнт | 0,5 |
| *кафедра тэорыі музыкі* | |
| загадчык кафедры | 1 |
| дацэнт | 1 |
| *кафедра спецыяльнага фартэпіяна* | |
| ст. выкладчык | 1 |
| *кафедра беларускай музыкі* | |
| прафесар | 1 |
| *кафедра фартэпіяна* | |
| ст. выкладчык | 2 |
| выкладчык | 1 |
| *кафедра кампазіцыі* | |
| загадчык кафедры | 1 |
| прафесар | 1 |
| *кафедра моў* | |
| ст. выкладчык | 1 |
| *кафедра філасофіі* | |
| ст. выкладчык | 1 |
| *кафедра гісторыі музыкі* | |
| дацэнт | 1 |
| *кафедра спеваў* | |
| ст. выкладчык | 1 |
| *кафедра струнных народных інструментаў* | |
| дацэнт | 1 |
| *кафедра скрыпкі* | |
| ст. выкладчык | 1 |
| *кафедра канцэртмайстарскага майстэрства* | |
| ст. выкладчык | 1 |

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання. Заявы і дакументы згодна Палажэнню аб конкурсах накіроўваць на імя рэктара на адрас: *220030, Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.*

**Даведкі па тэл.: 227-49-42; 226-06-70.**

## Запрашае "Дом літаратара"

**8.10** "Заўсёды і ўсюды ў сэрцы маім малітва адна — Айчына" — так называецца вечарына, прысвечаная 80-ым угодкам з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі.

**15.10.** Секцыя паэзіі.

**17.10.** Адбудзецца паказ спектакля "Канвеер" па п'есе Міхася Карпечанкі ў пастаноўцы Бялыніцкага народнага тэатра.

**21.10.** Секцыя прозы.

**22.10.** "Няскораная чалавечнасць" — вечарына памяці, прысвечаная 70-годдзю Алеся Адамовіча.

**23.10.** Секцыя перакладу.

**29.10.** "Мы — маладая рунь" — вечарына з нагоды 5-годдзя часопіса маладых літаратараў "Першацвет".

**30.10.** Секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва. Літаратурныя секцыі пачынаюць працу а 15 гадзіне, а вечарыны — а 18. *Тэлефон для даведак: 236-09-09.*

ВЕРСІЯ

# Нават прыняўшы, што мяч — круглы...

"ЛіМ" АМАЛЬ ніколі не піша аб спорце (як мне здаецца, дарэмна), аднак мне хацелася б закрануць адну каляспартыўную тэму, якая вельмі нават датычыць тых тэм, якімі апякуецца газета.

Гаворка — аб выкарыстанні пэўнай сімволікі ў адзенні спартсменаў, найперш — у спартыўнай форме, гэта значыць, тым адзенні, у якім спартсмены прымаюць удзел у спаборніцтвах.

Спартсмены шмат якіх краін маюць у сваёй форме колеры нацыянальнага сцяга. Напрыклад, амаль заўсёды колеры нацыянальнага сцяга прысутнічаюць у форме спартсменаў ФРГ, Польшчы, Швецыі, Румыніі, ЗША, Расіі.

На жаль, нацыянальнага сцяга, зацверджанага законным парадкам, у нашай краіне на цяперашні час на існуе.

З дапамогай нармальнай логікі зразумець сэнс дзеяння ўладаў па адмаўленні ад найвялікшага скарбу — адных з самых старажытных у Еўропе Герба і Сцяга — немагчыма. Мабыць, ва ўсім гэтым ёсць нейкая таямніца, сэнс якой будзе праясняцца пазней.

Аднак дзейнасць палітычных кан'юнктуршчыкаў калі-небудзь ды будзе выпраўлена. А спартыўныя вынікі, дасягнутыя за той ці іншы перыяд, застаюцца ў аналах гісторыі назаўсёды. Таму горка робіцца, калі з-за палітычных гульняў дарослых "дзядзькоў" церпіць наш спорт.

Цяпер ужо не спрабуюць пярэчыць таму відавочнаму факту, што на найбольш значныя падзеі ў жыцці чалавецтва, якімі, без сумневу, з'яўляюцца вынікі спартыўных спаборніцтваў, уплываюць нейкія звышнатуральныя сілы, назву якім чалавек дае ў залежнасці ад свайго светапогляду. Але нават і заўзяты матэрыяліст можа пагадзіцца, што ў варунках прыблізна роўнай фізічнай падрыхтоўкі, прыблізна роўнай фінансавай матывацыі на першы план выходзяць маральна-валявыя якасці спартсменаў. А гэтыя якасці могуць праявіцца або не ў залежнасці ад пэўных умоў.

Асабліва яскрава, на жаль, гэтыя фактары праявілі сябе ў адносінах да нашых футбольных зборных — нацыянальнай ды маладзёжнай. Калі кола аўтараў і чытачоў "ЛіМа" сапраўды такое далёкае ад спорту, паведамлю: нацыянальная зборная Беларусі на працягу адборачнага цыкла да чэмпіянату свету 1998 года змагаецца ў чацвёртай еўрапейскай групе, дзе яе сапернікамі з'яўляюцца моцныя зборныя Аўстрыі, Швецыі ды Шатландыі і адносна слабейшыя зборныя Латвіі ды Эстоніі. Гэтыя спаборніцтвы набліжаюцца да свайго канца, у прыватнасці, наша каманда згуляла 9 матчаў з 10. Які ж вынік нашых "чараўнікоў скуранога мяча"? Калі паглядзець з аб'ектыўных пазіцый, нават прыняўшы, што мяч — круглы, можна было б смела спрагназаваць працэнтаў 40 ад магчымых ачкоў. Бо, прынамсі, футбольныя традыцыі на Беларусі заўсёды былі больш грунтоўныя, чым у тых жа Латвіі ды Эстоніі. Наша мінскае "Дынама" становілася некалі чэмпіёнам СССР, у той час як ніводная каманда з Латвіі ніколі не ўваходзіла (прынамсі, у аглядны час) у склад вышэйшай лігі чэмпіянату СССР, а паказчыкі эстонцаў заўсёды былі яшчэ больш сціплыя.

Паважаныя чытачы, калі хто не ведае, паведамляю: зборная Беларусі на сённяшні дзень мае 14,81 працэнта ад магчымай колькасці ачкоў (4 з 27). Гэта пры тым, што ўсе матчы з Латвіяй і Эстоніяй ужо згуляны, засталася яшчэ толькі адна сустрэча — з камандай Аўстрыі на яе полі. Так што канчатковы вынік, што цалкам верагодна, будзе роўны 13,33 працэнта. Пры гэтым наша зборная амаль заўсёды атрымлівала (прынамсі, за "хатнія" гульні) добрую прэсу. І гэта цалкам справядліва, бо нашы хлопцы прайгралі на сваім полі тром вельмі моцным камандам Шатландыі, Швецыі ды Аўстрыі кожны раз з мінімальным лікам — адпаведна 0:1, 1:2 і зноў 0:1.



Мал. А. Карловіча

Вядома, людзі, дасведчаныя ў футболе, адразу змогуць прывесці колькі заўгодна аб'ектыўных прычын, згодна з дзеяннем якіх гэтыя вынікі маглі быць толькі такія, а не інакшыя. Я ж хацеў бы адзначыць толькі адну акалічнасць. Форма, у якой выступаюць абедзве нашы футбольныя зборныя, — з перавагай нейкага няўцямнага чырванавата-зялёнага колеру, — аніяк не можа спрыяць мабілізацыі нейкіх дадатковых сіл спартсменаў у той момант, калі астатнія аргументы бываюць вычарпанымі.

Не стала пераможнай гэтая форма і для нашай маладзёжнай зборнай. Праз увесь час турніру наша каманда была лідэрам, свабодна выйгравала свае сустрэчы і дома, і ў гасцях. А ў самы адказны момант — у хатніх сустрэчах са шведамі і аўстрыйцамі — нешта не атрымалася, узялі адно ачко з шасці і страцілі ўсе шанцы на першае месца.

...За семсот гадоў існавання нашай старажытнай сімволікі бывалі розныя часы, розныя формы ўлады — сваёй, а апошнім часам усё больш аднекуль прышлай. Валадары Беларусі вельмі ўжо часта кіраваліся пры выбары сімволікі самымі рознымі, часцей за ўсё нейкімі кан'юнктурнымі меркаваннямі. Але ж ёсць і такое паняцце, як нацыянальныя колеры. Іх не можа адмяніць ніводная ўлада. Нацыянальныя колеры выяўляюцца ў жывой творчасці народа. Для беларусаў гэта найперш ткацтва. На тэрыторыі Беларусі амаль паўсюдна характэрным спалучэннем колераў у ткацтве з'яўляецца спалучэнне белага і чырвонага, найчасцей — чырвонага на фоне белага. Зрэдку, больш ва ўсходніх раёнах, выкарыстоўваецца яшчэ чорны колер. І амаль ніколі — жоўты, блакітны, зялёны. Спалучэнне белага і чырвонага колераў увайшло ў генную памяць кожнага беларуса, і толькі такое спалучэнне колераў дае адчуванне нейкага свята, узнёсласці, памкнення да дасканаласці, да максімальнага выкарыстання ўласных сіл.

Калі беларускія спартсмены выступаюць у форме з выкарстаннем сваіх нацыянальных колераў, вынік заўсёды добры. Ці ж лёгка было нашым хакеістам на чэмпіянаце свету ў групе "Б" у Польшчы ў сярэдзіне красавіка гэтага года? Ім супрацьстаялі куды больш вопытныя дружыны з Аўстрыі, Швейцарыі, Вялікабрытаніі. На поспех магла разлічваць і зборная Казахстана, і гаспадары пляцовак — палякі. Вынік гэтага спаборніцтва вядомы: наша каманда ў сямі сустрэчах атрымала сем перамог і ўпэўнена заняла першае месца. Не ўсе гульні складваліся аднолькава лёгка. Толькі цуд, здавалася, мог выратаваць беларусаў у матчы са швейцарцамі. Пасля двух перыядаў было 3:5 не на нашу карысць. Аднак на гэтым чэмпіянаце наша каманда гуляла ў бел-чырвона-белай форме, на трыбунах свабодна луналі бел-чырвона-белыя сцягі яе заўзятараў. І гэта не магло не адбіцца на настроі хакеістаў, або, — калі хто аддае перавагу мысленню ў такіх тэрмінах, — не магло не паспрыяць дзеянню нейкіх звышнатуральных сіл. Канчатковы вынік той сустрэчы — 6:5 на карысць беларусаў.

На жаль, апошнім часам нашым спартсменам часцей не хапае нейкага "ледзь-ледзь". Толькі адзіны залаты медаль быў заваяваны ў алімпійскай Атланце. Толькі два сантыметры не хапіла У. Дуброўшчыку да медаля на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы ў Афінах. Калі адмовіцца ад прыцягнення ў вялікі спорт палітычнай кан'юнктуры, гэтыя "ледзь-ледзь" можна схіліць на карысць Беларусі. У 1998 го-дзе нашых спартсменаў чакае шмат значных выпрабаванняў. Упэўнены, што яны прайшлі б па ўсіх спартыўных арэнах дастойна, каб дазволілі ім выступаць у форме, якая абавязвае; форме, якая выратоўвае ў складаных сітуацыях: форме, у якой адчуваеш уласную годнасць і гонар за сваю краіну, дзе адначасова з дзяржаўнай сімволікай магла б раўнапраўна існаваць гістарычна-нацыянальная, як гэта дзеецца ва ўсім свеце.

**Аляксандр УРБАНОВІЧ**
*г. Гомель*

ПОШТА

# А з адной жа друкарні

Памятаю, атрымаў я студзеньскі нумар "Полымя". Атрымаў, абрадаваўся, кінуўся чытаць. Знячэўку дзесьці на сярэдзіне томік "разламаўся" на дзве часткі, што ўтрымліваліся толькі мяккай вокладкай. Пры далейшым чытанні на месцы "разлому" пачалі выпадаць лісты...

Ну, думаю, не пашанцавала — звычайны паліграфічны брак, такой бяды. Другі нумар будзе нармальны, не развяліцца. На жаль, і другі, і трэці, і чацвёрты нумары гэтак жа раптоўна "лопаліся", як і першы...

Мне, як былому бібліятэкару, зарупіла іншае: які ж кароткі век, напэўна, мае цяпер "Полымя" ў нашых чытальнях! А некалі ж кніжкі часопіса гадамі служылі чытачам бібліятэк.

З красавіка падпісаўся я і на "Маладосць". Атрымаў чацвёрты нумар, асцярожна (з улікам горкага вопыту) пагартаў яго і — во дзіва! — ён нідзе "не разламаўся". Прачытаў амаль увесь за колькі дзён, а часопіс — цэлы! Ну, думаю, малайцы маладосцеўцы, аддрукавалі, пэўна, тыраж за мяжой. Пашукаў выходныя даныя. Чытаю: "Надрукавана... у друкарні выдавецтва "Беларускі дом друку". Дык гэта ж там, дзе і "Полымя" друкуюць. Чаму ж такая розніца?

Дрэнная брашуроўка "тоўстых" літаратурных часопісаў — гэта не толькі нязручнасці для індывідуальнага падпісчыка, не толькі галаўны боль для бібліятэкараў. Мне здаецца, што гэта яшчэ і маральная траўма для аўтараў, якія там друкуюцца. Справа ў тым, што нават у савецкі час шлях ад часопіснага варыянта твора да выхаду яго асобнай кнігай вымяраўся не месяцамі, а гадамі. Цяпер жа — тым больш. А пісьменнікі ж, мабыць, не менш за бібліятэкараў зацікаўлены, каб іхнія творы былі прачытаны як мага раней і як мага большай колькасцю людзей. Але названы паліграфічны брак рэзка скарачае "чытальніцкае" жыццё часопісаў.

Добра памятаю зачытаныя "да дзірак" нумары "Полымя" і "Маладосці" 60—70-х гадоў, дзе друкаваліся раманы і аповесці Мележа, Шамякіна, Быкава, Навуменкі, Пташнікава... І служылі тады чытачам гэтыя часопісы па некалькі гадоў. А там, глядзіш, на змену зачытаным часопісам і кніжны варыянт твора падаспеў у бібліятэку.

Ці ж вытрымае сённяшні экземпляр "Полымя" такую нагрузку?

І яшчэ адно. У часопісе "Маладосць" адсутнічаюць калонтытулы, што стварае пэўныя нязручнасці для чытача. У "Полымі", дарэчы, яны ёсць.

**Мікола ТОНКАВІЧ**
*г. Мінск*

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Скардзіўся на пільні арандатар склада: — І плачў багата, а ўсё ж крадуць. — Не ўлічваеш, уласнік, псіхалогію мас, трэба шмат часу, каб забыцца на калгас. Кінуць красці, як агульнае стане ўласным. — А на гэта колькі спатрэбіцца часу?

●

ДурацЬ нас, і ўжо ў вары вараным ставяць недзе неадмыўную пячатку. І тады, хоць аб'яўляй, што пачынаюць знову "Санта-Барбару", пабурчым — і зноў пачнем глядзець спачатку.

●

Прытэпалі фігляры: — Нашто нам вашы "ляры"? — Якія гэта "ляры"? — Ну, тыя — "цырку — ляры". — Вы ж цырк — ідэалагічная установа! — Дык што ў нас сланы на іншай аснове? ...Наіўныя скамарохі, хочуць уцячы ад эпохі.

●

— Чулі, у Расіі забіты выдавец кніг, пры няясных абставінах, і забойца знік.

— А ці даўно ў нас кнігі забаранялі і палілі, аўтараў і выдаўцоў у астрогах гнаілі.

— Тут, мабыць, чыста крымінальная справа.

— Усё адно крыўдна — за суседнюю дзяржаву.

●

Не пазнаю былых суседзяў — залезлі ў бароды, адзін, другі, трэці. Барадыўцёкі, бароды-выклік, мы з тымі барадамі да ўсяго прывыклі. Пры Леніне кіраўнікі насілі бародкі, пры наступніку выскрэбвалі падбародкі. А як яно цяпер, для сучасных беларусаў, — насіць бароды ці толькі вусы? І як яно з тымі, у каго чыстыя твары, — у норме яны ці лічы пачвары?


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4322
Нумар падпісаны ў друк 2.10.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 5803/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12